№ 2 (211) 8 студзеня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# СЯДЗІ МЕНЕЙ

За што і як будуць судзіць, за што і на колькі садзіць, каму будзе амністыя і якія зьяўляюцца альтэрнатывы турэмнаму зьняволеньню паводле новага Крымінальнага кодэксу

Старонкі 2—3.

# Сьмерць прэсы

*Наклад "Свободных новостей" скараціўся напалову, а "Народнай Волі" — на трэць*

Дэкляраваны наклад "Свободных Новостей" зь лістапада да студзеня скараціўся з 65 да 30 тыс. асобнікаў, а "Народная Воля" проці 60 тысячаў цяпер выходзіць тыражом 40 тыс. Гэта – два найбуйнейшыя незалежныя выданьні. Ва ўмовах забароны ўсіх свабодных тэле- і радыёстанцый такі абвал накладаў робіць шанцы дэмакратычнага кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах больш чым прывіднымі. Ёсьць яшчэ радыёстанцыі "Свабода", "Рацыя" і "Балтыйскія хвалі", але дзьве першыя вяшчаюць у кароткім дыяпазоне, і, каб іх слухаць, патрэбная, мякка кажучы, пэўная настойлівасьць, а віленскія "Хвалі" на сярэдніх хвалях (якія таксама рэтрансьлююць "Свабоду" ды "Рацыю") трывала чуваць толькі на захад ад Ліды й Маладэчна.

Няблага раскупляюцца спартовыя, музычныя, тэлевізійныя выданьні, газэты для хатніх гаспадыняў. Трымае наклад рэспэктабэльная "Белорусская деловая" (22 тыс. на сёньня), прызначаная быццам бы для вузейшага кола чытачоў. Летнія апытаньні IREX-Promedia ды НІСЭПД паказалі, што яе аўдыторыя (сталыя і эпізадычныя чытачы) не вузейшая, чым кола чытачоў "Свободных Новостей" і "Народнай Волі". Тыя самыя апытаньні зьдзівілі і іншым: "Наша Ніва", якую традыцыйна ўспрымалі як "газэту для нямногіх", мае болей чытачоў (ад 1 да 3,4% аўдыторыі), чым разьлічаныя на масавага чытача "Рабочы" ды "Наша Свабода" (ад 0,5 да 3%). Гэта значыць, усё больш чытачоў не задавальняецца ўжо масавымі і агульнатэматычнымі выданьнямі, а хоча спэцыялізаванай або спэцыфічнай газэты.

Радыё Свабода, паводле тых самых апытаньняў, у Беларусі калінікалі слухаюць каля 10% людзей – прыкладна столькі ж, колькі гады ў рады чытаюць "Народную Волю".

***Пра стан беларускай прэсы і складаныя дачыненьні газэтаў і радыёстанцыяў – у наступным нумары "НН".***

# Правапісная нарада

**Першая ў гэтым тысячагодзьдзі нарада па пытаньнях упарадкаваньня клясычнага правапісу адбылася 3 студзеня ў Менску.**

Першая спроба сфармуляваньня правілаў была зроблена Вінцуком Вячоркам, які надрукаваў праект збору артаграфічных нормаў у пяты нумары часапісу «Спадчына» за 1995 г.

5–6 сьнежня 1998 г. у Празе адбылася канфэрэнцыя, што мела на мэце абмеркаваць праект, надрукаваны ў "Спадчыне". Запачаткаваная ў Празе работа працягвалася й у Менску на адмысловых зборках мовазнаўцаў.

Сёлетняя нарада мела збольшага арганізацыйнае значэньне: былі акрэсьлены асноўныя неразьвязаныя праблемы. "НН" пасьля кожнае зборкі лінгвістаў будзе паведамляць пра разьвязаньні праблемы правапісу, а гэтаксама надрукуе канчальны збор правілаў адразу па ўхвале яго на заключнай нарадзе.

3 студзеня ў нарадзе, апроч Вінцука Вячоркі, мелі ўдзел Зьміцер Санько з выдавецтва "Тэхналёгія", Юрась Бушлякоў з філфаку БДУ, Паўлюк Канавальчык з газэты "Навінкі" і Зьміцер Саўка з Радыё Рацыя. Наступнымі паседжаньнямі маюць далучыцца пісьменьнік Уладзімер Арлоў, Валерка Булгакаў з часопісу "*Arche*", Мікола Раманоўскі з "НН", мовазнаўца Пятро Садоўскі.

3 студзеня былі вылучаны на разгляд наступныя пытаньні:

1. Мовазнаўцы вярнуліся да статусу літары ґ для выбухнога гуку (*ґуру* або *гуру*). Зноў паўстала праблема перадаваньня ў беларускай мове англасаксонскага гуку, што пазначаецца там літараю h (*гіпі* ці *хіпі*).

Працяг на старонцы 3.




АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Якія Каляды без калядоўшчыкаў і батлейкі? Каляды ў Беларусі — ня проста рэлігійнае сьвята. З калядаваньняў пачыналася станаўленьне нацыянальнага палітычнага руху. А з батлейкі — апошняя хваля адраджэньня нацыянальнай культуры. Прычым памыляецца той, хто ўважае, што батлейка прыйшла ў Беларусь з Усходу разам з праваслаўнымі традыцыямі. Вытокі батлейкі ў сярэднявечным містэрыяльным тэатры Заходняй Эўропы, прынесеным езуітамі ў Беларусь.

З батлейкі пачалася новая хваля адраджэньня, бо батлейка зачапіла цэлы пласт дасюль некранутай глыбіннай культуры, асабліва музычнай. Пачала вяртацца да жыцьця беларуская валынка – дуда (адным зь першых да яе зьвярнуўся батлейнік Алесь Лось). Батлейнік Іван Кірчук стварыў гурт "Тройца". Параўнайце музыку "Тройцы" і "Песьняроў", і вы ўсё зразумееце.

Цяпер свае батлейкі ёсьць амаль у кожным беларускім горадзе. Зь сярэдзіны 90-х батлейку штогод ладзілі ў Наваполацкім цэнтры нацыянальнай культуры. Летась 25 сьнежня ўпершыню паставілі батлеечны спэктакль полацкія грэка-каталікі.

Нельга не згадаць батлейкі, якая па сёньня працуе ў філіі літаратурнага музэю Максіма Багдановіча "Беларуская хатка". Стварыў яе ўсё той жа Алесь Лось у 1990 г. Гаспадар і творчы кіраўнік гэтага мінітэатру — дырэктар музэю, паэт Эдуард Акулін. Паказы рэлігійных і вясёлых побытавых сцэнак тут ладзяцца для наведнікаў музэю амаль штодзень. Таму гэтая батлейка — хутчэй дзейны музэйны экспанат.

Памятаю, як рамантычна і таямніча пачынаўся Залескі народны тэатар "Батлейка", які стварыў мастак Алесь Лось у 1983 г. у тым самым Залесьсі на Смургоншчыне, дзе жыў кампазытар Міхал Клеафас Агінскі, дзе быў напісаны палянэз "Разьвітаньне з Радзімай". Батлейка ў беларускай вёсцы аказалася нікому не патрэбная. Цяпер Алесь Лось жыве пераважна ў Польшчы.

Іншую вядомую батлейку стварыў Іван Кірчук. Стварыў у Менску, і значна пазьней за Алеся Лася – ужо ў 1994 г. Але й гэтая спроба, у іншым часе і месцы, аказалася не зусім удалаю. У 1999 г. Кірчук зьвёз свой тэатар у Галяндыю. Так бы мовіць, вярнуў у Эўропу. Беларусь усё яшчэ застаецца атэістычнай краінай, і батлейка для беларусаў — пакуль дзівацтва. Сапраўднае адраджэньне батлейкі можа прыйсьці толькі з рэлігійных грамадаў.

А сёньня і ў Полацку, і ў Наваполацку на вуліцы выйшлі калядоўшчыкі. Рыхтуйце прысмакі і напоі, а раптам і ў вашу хату ўваліцца гаманкая каляда.

**Алесь Аркуш**

# Новы Крымінальны кодэкс

## *За што нас будуць судзіць, за што — садзіць, якія будуць альтэрнатывы зьняволеньню*



**1 студзеня ўступіў у сілу новы Крымінальны кодэкс, зьмяніўшы стары, прыняты яшчэ ў 60-х. Завяршылася пачатая ў 1992 г. распрацоўка крымінальнага заканадаўства. Зьмены ў заканадаўстве нам тлумачыў адзін з распрацоўшчыкаў кодэксу, доктар юрыдычных навук, прафэсар Уладзімер Хоміч. Камэнтары – рэдакцыйныя.**

Распрацоўшчыкі задумвалі, што новы Крымінальны кодэкс будзе розьніцца ад папярэдняга, 1960 году выданьня, большай гуманнасьцю. Гэта праяўляецца нават у чыста сымбалічных момантах. Гэтак, савецкае крымінальнае заканадаўства пачыналася пералікам дзяржаўных злачынстваў. Новы Кодэкс адкрываецца разьдзелам, прысьвечаным злачынствам супраць чалавека. Дзяржава і так мае дастаткова праваў, палітычных і сілавых сродкаў дзеля абароны сваіх інтарэсаў.

Але новы Кодэкс атрымаў у спадчыну ад старога ідэалягічны фон, паколькі па-ранейшаму дае вызначэньне злачынства як "грамадзка небясьпечнага і крымінальна супрацьпраўнага дзеяньня". Кодэксы ж практычна ўсіх эўрапейскіх дзяржаваў злачынства вызначаюць гэтак: "Злачынствам ёсьць дзеяньне, прадугледжанае дадзеным Кодэксам". Калі чалавек зьдзейсьніў штосьці, забароненае крымінальным заканадаўствам, суд не павінен вагацца й разглядаць пытаньне, небясьпечна гэта для грамадзтва ці не. У нас жа ў аснову вызначэньня злачынства пакладзеная ягоная грамадзкая небясьпека, і ў сытуацыях, калі супрацьпраўнае дзеяньне нібыта й мела месца, аднак грамадзкая небясьпека ад яго мінімальная, узьнікаюць спрэчкі, злачынства гэта ці не. Лішне казаць, што грамадзкая небясьпека таго ці іншага ўчынку заўсёды вызначаецца з пазыцыяў палітычнай улады. Напрыклад, на выбарчым участку выяўленых дзесяць падробных бюлетэняў для галасаваньня. З фармальнага пункту гледжаньня, гэта злачынства. А наш Кодэкс дае магчымасьць паразважаць: маштабы парушэньня — проста мізэрныя, ну хіба за гэта садзіць?.. Такім чынам, беларускае крымінальнае заканадаўства засталося на пазыцыях матэрыяльна-фармальнага вызначэньня злачынства, але праблема ідэалягічнага фону часткова здымаецца наступнай фармулёўкай: "Малазначным вызнаецца дзеяньне, якое не нанесла і па сваім зьмесьце й скіраванасьці не магло нанесьці значнай шкоды..."— то бок, значнасьць дзеяньня вызначаецца з пункту гледжаньня ягоных мэтаў, а не фактычнай шкоды.

### ЗА ШТО САДЗІЦЬ НЯ БУДУЦЬ

Вытворчасьць самагёту, санкцыяваная ў 97-м, не фігуруе і ў новым Крымінальным кодэксе. Так што цяпер, відаць, гнаць гарэлку можна будзе шчэ сьмялей. З разуменьнем паставіліся стваральнікі Кодэксу й да яшчэ адной немалаважнай крыніцы даходу простых грамадзянаў: зьменшанае пакараньне за прысваеньне маёмасьці юрыдычнай асобы — прасьцей кажучы, за крадзеж дэталяў на заводзе, бульбы з калгаснага бурта, бэнзыну ў аўтамайстэрні. На адпаведныя маніпуляцыі з чыёйсьці прыватнай маёмасьцю такія паблажкі не распаўсюджваюцца: можна атрымаць да трох год пазбаўленьня волі. Дробныя крадзяжы (а такімі яны лічацца, калі агульны кошт экспрапрыяванага не перавышае 10 мінімальных заробкаў) могуць мець варыянтныя пакараньні – то бок могуць пасадзіць, а могуць проста аштрафаваць або прызначыць на папраўчыя работы.

Зьмянілася стаўленьне праваахоўных органаў і да прадпрымальніцкай дзейнасьці ды яе "суб'ектаў". Паводле ранейшых заканадаўчых нормаў, асобам, якія мелі адміністрацыйныя правапарушэньні, забаранялася займацца бізнэсам. У новае крымінальнае заканадаўства гэты пункт не ўвайшоў. Відаць, такая рэдкая птушка, як бязгрэшны перад дзяржаваю прадпрымальнік, даўно ўжо не гняздуе ў Рэспубліцы Беларусі.




### ЗА ШТО СУДЗІЦЬ БУДУЦЬ СТРАЖЭЙ

Нельга, аднак, сказаць, што новы Крымінальны кодэкс, у параўнаньні са старым, скрозь характарызуецца палягчэньнем мераў ды зьмяншэньнем тэрмінаў. Ёсьць і адваротныя тэндэнцыі. Напрыклад, за парушэньне недатыкальнасьці жылля супрацоўнік праваахоўных органаў можа атрымаць да 6 месяцаў пазбаўленьня волі, тады як звычайны грамадзянін – максымум 3 месяцы. Больш суровая кара чакае змагароў нябачнага фронту й за парушэньне таямніцы прыватнай перапіскі. Тым больш што патрэба ў гэтым патроху зьнікае: адмова чыноўніка ад прадастаўленьня інфармацыі дзяржаўным органам, паводле новага Кодэксу, таксама лічыцца крымінальным злачынствам.

### НЕДАТУРМА

Новы Кодэкс прадугледжвае таксама такі тып пакараньня, як "абмежаваньне волі" — спэцыфічная кара, пры якой асуджаны пражывае ў спэцыяльна абсталяваным інтэрнаце, дзе ён знаходзіцца пад наглядам адміністрацыі папраўчых "установаў адкрытага тыпу" і абавязаны працаваць. У інтэрнаце існуе прапускны рэжым, пэўныя правілы паводзінаў, аднак збольшага чалавек вольны: ён можа, з дазволу адміністрацыі, выходзіць за межы інтэрнату, сустракацца зь сям'ёй. Асуджаныя атрымліваюць заробак, без усякіх вылічэньняў, з гэтага заробку яны харчуюцца й апранаюцца. Толькі пры адсутнасьці ў іх адпаведнай вопраткі альбо сродкаў на харчаваньне адміністрацыя такой "установы адкрытага тыпу" ў першыя месяцы знаходжаньня там асуджанага можа дапамагаць яму.

У большасьці краінаў, дзе Кодэкс прадугледжвае абмежаваньне волі (Польшча, Расея), такія "ўстановы" ствараюцца там, дзе патрэбуецца працоўная сіла на вялікі тэрмін. Так, напрыклад, славутая "хімія", ад якой сыстэма "установаў адкрытага тыпу" мала чым розьніцца, узьнікла ў СССР у 1977 г., калі пачалося будаўніцтва нафта- й газаправодаў у Эўропу. Такія маштабныя задачы перад беларускімі зьняволенымі ня ставіцца, сёньня яны прыцягваюцца да працы на прадпрыемствах, што маюць патрэбу ў спэцыялістах шырокага профілю пачатковай кваліфікацыі. Гэтак, адна з "установаў адкрытага тыпу" знаходзіцца ў Менску за Домам быту, што на вуліцы Маскоўскай, і спэцыялізуецца на будаўнічых працах.

Новы Крымінальна-выканаўчы кодэкс патрабуе, каб падчас размеркаваньня зьняволеных па "установах адкрытага тыпу" ўлічвалася іх грамадзянская спэцыяльнасьць, што цалкам рэальна для шафёраў альбо будаўнікоў. А вось інтэлігенцыя атрымае выдатную магчымасьць адпачыць ад душных аўдыторыяў ды НДІ й падмацаваць здароўе фізычнай працай на сьвежым паветры.

### ШТО ТАКОЕ "АРЫШТ"

У Кодэксе 1960-га такое пакараньне, як арышт, за крымінальнае злачынства не прадугледжвалася. Ягонае зьяўленьне ў новым заканадаўстве было спрычыненае патрэбай адасобіць ад асноўнае масы асуджаных на пазбаўленьне волі "кароткатэрміновых" зьняволеных. Апошнія, патрапляючы ў турмы й калёніі, дэзарганізавалі ўсю сыстэму папраўна-перавыхаваўчых мерапрыемстваў, разьлічаных, як мінімум, на год. Максымальная працягласьць арышту — 6 месяцаў. Праз увесь гэты тэрмін асуджаны знаходзіцца ва ўмовах суворай ізаляцыі. Як сьведчыць міжнародная практыка, асноўны перавыхаваўчы фактар пры арыштце — шок. Гэтае пакараньне можа ўжывацца, калі злачынства не зьяўляецца асабліва небясьпечным для грамадзтва і, у горшым выпадку, караецца турэмным зьняволеньнем тэрмінам ад 2 да 5 гадоў.

Трэба адрозьніваць крымінальны арышт ад адміністрацыйнага. Першы ёсьць вынікам судовага выраку. Асоба асуджаецца як злачынца, а не як правапарушальнік, і лічыцца *судзімай*, чаго няма пры адміністратыўным арыштце. Апошні, дарэчы, можа цягнуцца ня болей за 2 месяцы.

### АМНІСТЫЯ

Больш за дваццаць тысячаў чалавек выйдуць на свабоду ў сувязі са зьмяншэньнем, у адпаведнасьці з новым Кодэксам, тэрміну зьняволеньня. Усе справы, у адносінах да якіх прыняты закон зьяўляецца больш мяккім, павінны быць аўтаматычна перагледжаныя. Любы чалавек, сваякі якога сядзяць, можа сёньня зьвярнуцца ў праваабарончыя цэнтры, дзе юрысты яму патлумачаць, ці маюць гэтыя зьняволеныя права на волю ў адпаведнасьці з новым Кодэксам.

На вызваленьне могуць спадзявацца і ўсе цяперашнія беларускія палітвязьні.

*Тэлефоны беларускіх праваабарончых цэнтраў:*
*Вясна (017) 231-08-44*
*Беларускі Гельсынскі Камітэт (017) 222-00-48*
*У менскіх бюро вам падкажуць тэлефоны любога абласнога аддзяленьня.*

### АРГАНІЗАВАНАЯ ЗЛАЧЫННАСЬЦЬ

У новым Крымінальным кодэксе больш дакладна вырашаная праблема барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю. Галоўнай цяжкасьцю ў гэтай справе заўсёды было (згадайма "Спрут") прыцягненьне да адказнасьці кіраўнікоў і арганізатараў злачынных фармаваньняў, якія, натуральна, уласнымі рукамі нікога не забіваюць і не рабуюць. Паводле новых законаў, "хросныя бацькі" нясуць адказнасьць за ўсе ўчынкі сваіх "падначаленых", зьдзейсьненыя на карысьць злачыннай арганізацыі.

За гвалт, учынены "ў прыватным парадку", бандзюкі адказваюць асабіста.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

### ГЛЯБАЛІЗАЦЫЯ КРЫМІНАЛУ

Паводле новага крымінальнага заканадаўства, перасьледуюцца й караюцца і злачынствы супраць чалавецтва. Яны падзяляюцца на тры асноўныя тыпы: злачынствы супраць міру, злачынствы супраць чалавецтва (генацыд, апартэід, гандаль людзьмі) і ваенныя злачынствы (парушэньне так званых Гаагскіх канвэнцыяў — што тычыцца акупацыйнай палітыкі, стаўленьня да ваеннапалонных, мірнага насельніцтва, культурных каштоўнасьцяў і г.д.).

Адпаведныя канвэнцыі падпісваліся і за савецкім часам, аднак у крымінальнае заканадаўства злачынствы супраць чалавецтва не траплялі — зь дзьвюх асноўных прычынаў. Папершае, іх маштабы былі недасягальныя для крымінальнай адказнасьці, а па-другое, згаданая адказнасьць прадугледжвалася тады за адныя толькі размовы пра "па-першае". Такога злачынства, як этнацыд – гвалтоўныя дзеяньні, скіраваныя на сьціраньне этнічных адметнасьцяў, склад якога многія знаходзяць у палітыцы ўладаў цяперашняй Беларусі, Кодэкс не адзначае.

### СТРАТА ТОЛЬКІ ЗА ЗАБОЙСТВА

Сьмяротны прысуд можа быць вынесены толькі за наўмыснае пазбаўленьне жыцьця іншага чалавека, пры наяўнасьці дадатковых цяжкіх абставінаў (такіх, як удзел у забойстве дзьвюх і болей асобаў, карысьлівыя меркаваньні, найманае забойства і г.д. — усяго 16 пунктаў). Крымінальны Кодэкс абгаворвае шмат іншых сытуацыяў, пры якіх можа здарыцца забойства. Напрыклад, захоп улады неканстытуцыйным шляхам. Сьмяротнае пакараньне за такія дзеяньні можа мець месца толькі ў тым выпадку, калі яны сталіся прычынай наўмыснага пазбаўленьня жыцьця чалавека. Калі гэтага няма — няма й сьмяротнага пакараньня, якіх бы наступстваў гэтыя захоп ні меў.

У новым Кодэксе афіцыйна зацьверджаная альтэрнатыўная страце кара – пажыцьцёвае пазбаўленьне

## м е р к а в а н ь н е   э к с п э р т а ў

# Аляксей Лукашоў: "Пашырыўся спэктар пакараньняў"

**На думку Аляксея Лукашова, кіраўніка аддзяленьня заканадаўства па пытаньнях нацыянальнай бясьпекі, праваахоўных і судовых органаў Нацыянальнага цэнтру заканатворчай дзейнасьці, аднога з удзельнікаў распрацоўкі новага крымінальнага заканадаўства, перапрацаваны Кодэкс 60-х, які ляжыць у аснове Кодэксу 1999-га, набыў выразную гуманістычную скіраванасьць.**

"Пашырыўся спэктар пакараньняў. Цяпер абавязковым пазбаўленьнем волі будуць караціа толькі асабліва цяжкія злачынствы, што мелі вынікам сьмерць чалавека. Ва ўсіх іншых выпадках (якія на юрыдычнай мове завуцца "цяжкімі" й "менш цяжкімі" злачынствамі) асуджаны можа спадзявацца на пэўную альтэрнатыву турэмнаму зьняволеньню як то абмежаваньне волі, папраўчыя працы, штраф, арышт і г.д. Зь мерай пакараньня мае на месцы разабрацца судзьдзя.

Таксама падчас працы над Кодэксам былі выкрасьленыя зь ліку крымінальных злачынстваў такія дзеяньні, як хуліганства, не зьвязанае з нанясеньнем фізычнай альбо матэрыяльнай шкоды (у тым ліку брыдкаслоўе, чапляньне), а таксама падрыў дзяржаўнай манаполіі на вытворчасьць моцных алькагольных напояў, упершыню санкцыяваны ў 97-м".

**АД РЭДАКЦЫІ.**
**Распрацоўшчыкі падрыхтавалі гуманізаваны Кодэкс, а Лукашэнка ўвёў яго ў дзеяньне. Мы маем цяпер адзін з самых прагрэсіўных крымінальных законаў Эўропы, на галаву сучаснейшы за расейскі. Але гэта не гарантуе павагі да грамадзяніна ва ўмовах прававога нігілізму, насаджанага тымі самымі ўладамі, што ўводзяць Кодэкс. Тым больш, што артыкулы, па якіх звычайна праходзяць "палітычныя", цяпер прадугледжваюць больш жорсткія пакараньні, суд прысяжных ня ўводзіцца, а санкцыі супраць органаў улады прапісаныя невыразна.**

# Валянцін Стэфановіч: "Палітычныя артыкулы сталі больш жорсткімі"

**Валянцін Стэфановіч, юрыст Праваабарончага цэнтру "Вясна", настроены больш скептычна. Зьмены, кажа ён, носяць павярхоўны характар або датычаць другасных пытаньняў, а вось прынцыповыя рэчы – сьмяротнае пакараньне, суд прысяжных, адказнасьць органаў улады – ня зьмененыя.**

"Нічога пэўнага пра новы Крымінальны кодэкс, покуль ён ня пройдзе апрабацыі ў судах, сказаць нельга. Дый няма ў ім асаблівых сэнсацыяў: сьмяротнае пакараньне не скасаванае, інстытут прысяжных ня ўведзены, як тое меркавалася зрабіць на пачатку 90-х, калі паўстала пытаньне пра рэфармаваньне судовай сыстэмы. Няма й артыкулаў, якія б прадугледжвалі адказнасьць прадстаўнікоў улады за зьдзекі й катаваньні — усё гэта па-ранейшаму ўваходзіць у размыты й неакрэсьлены панятак "перавышэньне службовых паўнамоцтваў".

Новыя віды пакараньняў — таксама цікавае пытаньне. Напрыклад, арышт: "Утрыманьне ад 1 да 6 месяцаў ва ўмовах суворай ізаляцыі". Дзе гэта будзе адбывацца й што за ўмовы такія? Незразумела. Хаця з таго, што гэтае пакараньне нельга выкарыстоўваць да жанчынаў, інвалідаў, непаўналетніх — можна сабе ўявіць...

Тыя артыкулы Крымінальнага кодэксу, якія ўлады звычайна выкарыстоўваюць супраць апазыцыянэраў, зрабіліся больш жорсткімі. Возьмем, напрыклад, былы 201-ы артыкул — "Хуліганства", што звычайна інкрымінуецца ўдзельнікам шэсьцяў і мітынгаў. Частка першая, "звычайнае хуліганства", раней прадугледжвала пазбаўленьне волі да 1 году, у новым кодэксе тэрмін павялічыўся да 2 гадоў. За "злоснае хуліганства" цяпер можна атрымаць ня 5, як раней, а 6 гадоў. Пазбаўленьне волі — арышт да 3 месяцаў — цяпер прадугледжваецца й за зьнявагу дзяржаўнай сымболікі.

Акрамя пазыцыяў, што прадугледжваюць адказнасьць за абразу й паклёп на звычайных грамадзянаў, у новы кодэкс уведзеныя два цікавыя артыкулы, якія ў цывілізаваных краінах звычайна не выкарыстоўваюцца: "Паклёп на Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі" і "Абраза Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі". За першае можна атрымаць штраф ці папраўчыя працы тэрмінам да 2 гадоў або 4 гады зьняволеньня. За другое — да 2 гадоў пазбаўленьня волі. То бок кіраўнік дзяржавы вылучаны ў асобную катэгорыю й адасабляецца ад простых сьмяротных.

У Аўстрыі, напрыклад, быў выпадак, калі на журналіста, які назваў аднаго палітыка дурнем, наклалі штраф. Але Эўрапейскі суд гэтае рашэньне скасаваў, бо палічыў, што журналіст — не псыхіятар і ягонае прыватнае меркаваньне — не дыягназ, а палітык, як асоба публічная, не павінен быць гэткім крыўдлівым".

волі, якое зараз ужо адбываюць у турмах Рэспублікі некалькі дзясяткаў асуджаных.

### АДРОЗЬНЕНЬНІ АД РАСЕЙСКАГА

Беларускі Крымінальны кодэкс мае мала супольнага з расейскім. Апошні ствараўся некалькімі рабочымі групамі, што канкуравалі паміж сабой, таму й атрымаўся дастаткова незбалянсаваны. Акрамя таго, ён амаль нічым ня розьніцца ад савецкага. Наш Кодэкс мае абсалютна іншую структуру. У ім, упершыню ў Эўропе, вырашаная праблема прававой рэгляментацыі інстытуту крымінальнай адказнасьці. То бок, вынікам злачынства можа таксама быць крымінальная адказнасьць, якая не заўсёды зводзіцца да пакараньня. У Кодэксе прадугледжаная цэлая сыстэма альтэрнатыўных мераў крымінальнай адказнасьці, абсалютна не зьвязаных з пакараньнем: т.зв. сыстэма прабацыі, сыстэма асуджэньня без прызначэньня пакараньня, сыстэма асуджэньня з ужываньнем прымусовых мераў выхаваўчага характару. Такога зусім няма ў Расеі.

### ПРАБАЦЫЯ

У клясычным крымінальным праве лічылася, што вынікам злачынства мусіць быць пакараньне, але, пачынаючы з 40-х, шырока ўжываюцца альтэрнатыўныя меры крымінальнай адказнасьці (так званыя дывэрсійныя меры). Напрыклад, сыстэма прабацыі — яе сутнасьць у зьмяншэньні колькасьці зьняволеных, што мае як маральна-этычны, так і эканамічны аспэкты. Суд можа прыняць рашэньне не накіроўваць асуджанага на пазбаўленьне волі ў вязьніцу, калі апошні на працягу пэўнага тэрміну будзе выконваць прапанаваныя ўмовы: рэжымна-абмежавальныя (зьяўляцца й рэгістравацца ў пэўныя дні тыдня), адукацыйныя (палячыцца, калі ёсьць такая патрэба, ад алькагалізму, наркаманіі, прайсьці пэўны адукацыйны курс — "прафіляктыка" прызначаецца індывідуальна, у залежнасьці ад характару дзеяньняў і ўпадабаньняў асуджанага). У ЗША сыстэма прабацыі кампутарызаваная. Кожны асуджаны мае электронны бранзалет, які дазваляе ў любы момант вызначыць ягонае месцазнаходжаньне цераз электронную карту места. Да такога будзе імкнуцца і беларуская пэнітэнцыярная сыстэма.

**Падрыхтаваў Андрэй Скурко**

# Правапісная нарада

Працяг са старонкі 1.

2. Зьвярталася ўвага на супярэчнасьці між вымаўленьнем і адлюстраваньнем на пісьме пераходу **і ў й** пасьля галосных. Скарачаць ці не скарачаць на пісьме злучнік **і**, як пісаць – *бацька і сын* або *бацька й сын*.

3. Існуе праблема напісаньня **-э** або **-а** ў фіналях іншамоўных слоў (*міністар*, але *містэр*, *кадар*, але *лідэр*).

4. Пасьля дакладнага сфармуляваньня мае быць зацьверджана правіла для прыназоўнікаў на **-з**, што ў становішчы перад ненацісьненым **і** не зьмякчаецца (*з інстытуту*).

5. Існуе разнабой у склонавых фомах назоўнікаў на **-тар** (*міністар – міністра, камптар – кампутара*).

6. Як пісаць: *гіерархія, герархія* або *ярархія, гіерогліф, герогліф* або *ерогліф* ды інш.

7. Ці дапушчаецца напісаньне **ў** пасьля зычных і на пачатку слоў у пазычаньнях (*Франсўа, Ўолтэр*).

8. Мае быць канчальна вырашана – зь якім канчаткам маюць ужывацца словы іншамоўнага паходжаньня на **-ner** (*піянэр* або *піянер*, як і *жаўнер*).

9. У зьвязку з разнабоем у выкарыстаньні вялікае й малое літар **гэ** тая праблема таксама будзе разглядацца ў часе аднае з нарад.

3 студзеня былі разгледжаны дзьве праблемы – літара **ґ** і злучнік **і**.

### ЛІТАРА Ґ

Найбольшыя спрэчкі разгарнуліся вакол літары **ґ**. Праект пастановы пра літару **ґ**, прыняты на Праскай нарадзе, радзіць не выкарыстоўваць літары **ґ** у агульнай лексыцы, але прыпусьціць ува ўласных найменьнях у спэцыяльных і навуковых выданьнях. Слоўнік, рыхтаваны С.Дубаўцом і С.Шупам, першыя літары якога вывешаныя ў Інтэрнэт-вэрсіі (http://slounik.hypermart.net), прапануе пісаць з **ґ** вялікую колькасьць словаў, напр. *лёґіка*.

На думку П.Канавальчыка, ужываньне літары **ґ** трэба абмежаваць іншамоўнымі ўласнымі назовамі й словамі *ґанак, ґузік* ды іншымі даўно засвоенымі іменьнікамі. П.Канавальчык лічыць, што ўжываньне літары **ґ** мае быць факультатыўнае, як у расейскай мове — ужываньне літары **ё** (паводле новых правілаў расейскае артаграфіі літара ё наагул будзе скасавана).

З.Саўка прапанаваў прыпусьціць выкарыстаньне літары **ґ** ува ўласных іншамоўных імёнах, дзе гук **[ґ]** гучыць у арыгінале.

На думку Ю.Бушлякова, праблема літары **ґ** надуманая, бо за паўтара дзесяцігодзьдзя актыўнага карыстаньня клясычным правапісам гэты графічны знак не зафіксаваны ў масавым друку (вынятак – некаторыя нумары часапісу "Фрагмэнты", рэдагаваныя В.Булгакавым), няма гэтае літары й у азбуцы. Ю.Бушлякоў перакананы, што літара **ґ** ня мае й сэнсаадрознае функцыі.

В.Вячорка запярэчыў – маўляў, як адрозьніваць: *ганак* дзяўчат і *ґанак* дому; прыродны *газ* і *ґаза* (карасіна), страляніна ў сэктары *Ґаза*?

Прыняцьцё канчальнай фармулёўкі адкладзенае да наступнага паседжаньня. Літара **ґ**, напэўна, будзе ўведзена ў азбуку. Прапануецца абмежаваць ейнае выкарыстаньне іншамоўнымі неславянскімі словамі ў энцыкляпэдыях, навуковай і спэцыяльнай літаратуры (у даведніках словы, што пачынаюцца літараю **ґ**, не павінны вылучацца ў асобны разьдзел).

### ГУК *H* У ПАЗЫЧАНЬНЯХ З АНГЕЛЬСКАЕ МОВЫ

Дагэтуль не дасягнута згоды ў напісаньні нядаўніх пазычаньняў з ангельскае мовы (*гіпі, гобі, гіп-гоп*) ды іншых словаў іншамоўнага паходжаньня (*Гельсынкі, Ганс-Георг*). У мове дзяржаўных беларускамоўных газэт яны перадаюцца як *хіпі, Хельсінкі, Ханс-Георг*, як і па-расейску. Ад нядаўняга часу гэтыя словы на старонках газэт і часапісаў, тэксты якіх друкуюцца клясычным правапісам, замацаваліся ў форме з пачатным **г**, якое на зьмену **х** прыйшло з эміграцкага друку. У перадаваньні англасаксонскіх пазычаньняў, на думку З.Санька, трэба зважаць на меркаваньне тых, хто жыве ў тамтэйшым асяродку. В.Вячорка падкрэсьліў, што беларускія эмігранты чуюць аўтэнтычныя ангельскія й нямецкія гукі, тым часам як у Беларусі ангельская мова выкладаецца з расейскім акцэнтам. Таму да англасаксонскага гуку **[h]** беларускі гук **[г]** бліжэйшы за расейскі **[x]** – па-беларуску належыць пісаць і гаварыць: *Гельсынкі, Ганс-Георг*. Да выняткаў могуць быць прылучаны словы *хуліган, хакей, хол, хук*. Скласьці сьпіс выняткаў для абмеркаваньня й прыняцьця канчальнае пастановы даручана Ю.Бушлякову.

### ЗЛУЧНІК *І* ПАСЬЛЯ ГАЛОСНЫХ

Ува ўжываньні літар **й** і **ў** існуе праблема неадпаведнасьці жывому вымаўленьню іхнае пазыцыі на пачатку слоў і ў якасьці злучнікаў. Напярэдадні й у часе Акадэмічнае канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу й азбукі 1926 г. Антон Лёсік прапанаваў быў пакінуць **й** і **ў** у сярэдзіне й пры канцы слоў. Як злучнікі ды на пачатку слоў **й** і **ў** прапаноўвалася не скарачаць. На гэтую сваю прапанову А.Лёсік увёў быў адмысловае правіла ў выдадзеным у 1943 г. у Менску "Беларускім правапісе".

Нарада 3 студзеня пацьвердзіла прынятае Праскаю канфэрэнцыяй правіла, паводле якога пасьля галосных **і** ды **ў** ува ўсіх разох пераходзяць у **й** і **ў**. Гэткім чынам, мае быць: *мама й сын, кукуруза й у Беларусі расьце*, але *яна і пісала, і чытала* ды *яна й пісала, і чытала*. Пасьля галосных ува ўласных іменьніках **і** і **у** гэтаксама пераходзяць у **й** і **ў**: *пра Ўладзімера, кніга Ў.Арлова, ува Ўкраіне*.

Наступнае паседжаньне ў справе ўдакладненьня клясычнага правапісу беларускае літаратурнае мовы адбудзецца серадою 10 студзеня. Пасьля разьвязаньня ўсіх правапісных праблем і выданьня граматыкі пачнецца абмеркаваньне марфалёгіі й слоўніка. Ужо цяпер у часе дыскусіі было закранутае пытаньне ўжываньня адменьнікаў аднаго й таго сама слова: *горадзенскі й гарадзенскі, моладзевы й маладзёвы*; непасьлядоўнага пільнаваньня правіла перадаваньня грэцкіх слоў пад уплывам савецкае традыцыі: *этэр – эфір* ды інш.

У часе правапісных зборак мае паўстаць праблема напісаньня кірыліцаю назоваў, што абазначаюць зьявы й рэчы, якія нядаўна зьявіліся ў нашым жыцьці: *McDonalds, rave, drive* ды іншыя. Няма дагэтуль правіла напісаньня скарочаных формаў слоў: *мо*' ці *мо – можа, трэ*' ці *трэ – трэба, ё*' ці *ё – ёсьць, до*' ці *до – досыць*.

**Віктар Мухін**

**"НН" будзе паведамляць пра ўсе наступныя паседжаньні менскіх мовазнаўцаў. Чакаем таксама Вашых водгукаў, ацэнак і прапановаў. Ваш чынны ўдзел у дыскусіі засьцеражэ мовазнаўцаў ад няўлічваньня асаблівасьцяў жывога народнага мауленьня. Правапіс, які будзе цалкам ігнараваць маўленчыя звычкі большасьці носьбітаў мовы, будзе сам асуджаны на сталае ігнараваньне ці прафанацыю.**

**Далей цягнуць з унармаваньнем клясычнага правапісу сапраўды няма куды.**

акцыя прадпрымальнікаў: страйк ці пяцідзённыя калядныя вакацыі?

# У аблозе

*Развагі пра рэвалюцыйны гарт прадпрымальнікаў нельга не ўспрымаць скептычна*

Лідэр полацкага прафсаюзу прыватных прадпрымальнікаў Валеры Шаўчэнка яшчэ напярэдадні Новага году паведаміў мне, што палачане не зьбіраюцца далучацца да агульнабеларускага страйку. Маўляў, на полацкім рынку ніякія санкцыі да парушальнікаў новых мытных правілаў дасюль не ўжываліся, таму палачане вырашылі не злаваць уладаў. Іншая справа Наваполацак – на тамтэйшым рэчавым кірмашы падаткоўцы апісалі тавар ажно шасьці гандляроў. Акрамя канфіскацыі, "чаўнакам" сьвецяць вялікія штрафы, за тысячу даляраў. Калі падыходзіць да мытнага надгляду з улікам апошняй літары закону, такія карныя меры можна прымаць да кожнага прыватнага гандляра. Тавар на нашых кірмашах пераважна турэцкі і кітайскі, а завозіцца ён галоўным чынам з маскоўскіх гуртоўняў. Адзінкавыя беларускія прадпрымальнікі здольныя дастаўляць тавар напрасткі з Анкары. Дзеля гэтага патрэбныя добрыя грошы, бо з адной-дзьвюма валізкамі няма сэнсу ехаць за стэпы і мора. Цікавая іншая рэч: хто і чаму не дазваляе рабіць гуртоўні ў Менску? Гэта тэма асобнага вялікага артыкулу. Вядома, пра мафію, расейскае сяброўства і беларускую незалежнасьць.

У Наваполацку карныя рэйды падаткоўцаў неверагодна напужалі гандляроў. Бо на месцы ахвяры мог апынуцца кожны. Менавіта ў Наваполацку першымі пачалі барацьбу супраць новага мытнага збору на тавар трэцяй краіны, які ўвозіцца ў Беларусь з Расеі. Увогуле, гэтае мыта, відавочна, — махлярскі трук, які ўводзіцца з мэтай "падаіць" прадпрымальнікаў. Падаткоўцы ў Наваполацку прызналіся, што менавіта з Рады Бясьпекі паступіла каманда аб "зборы" з прадпрымальнікаў. Гэта не тутэйшая ініцыятыва. Пасьля першага тутэйшага страйку мэр Наваполацку даў прадпрымальнікам слова, што перасьледу чыніць пакуль ня будзе. Але як у такіх умовах яго стрымаеш! Грошы ўладам патрэбныя тэрмінова — ня толькі на лядовыя палацы, вакзалы, масты, дыпляматычныя прадстаўніцтвы і стодаляравыя зарплаты, але і на перадвыбарчую кампанію.

Разумеючы ўсю гэтую катавасію, адчуваючы яе сваёй скурай, наваполацкія прадпрымальнікі, не задумваючыся, вырашылі страйкаваць другі раз — з 1 студзеня. Прычым не ў рэжыме пяцідзённых калядных вакацыяў, як у Менску ці Горадні, а ажно да сярэдзіны першага месяца новага тысячагодзьдзя, прычым яны гатовыя і ўвесь студзень праседзець дома – таньней абыдзецца.

Увогуле, развагі аналітыкаў пра рэвалюцыйны гарт прадпрымальнікаў нельга не ўспрымаць скептычна. Маўляў, сасьпела сярэдняя кляса, якая ведае кошт свабоды і цывілізаванага жыцьця і будзе стаяць за сьвятыя каштоўнасьці гарой. Лухта! Беларускія прадпрымальнікі гэткія ж залежныя ад уладаў людзі, як і настаўнікі, лекары, токары, пекары і калгасьнікі.

Я спытаўся на полацкім кірмашы, чаму тутэйшыя прыватныя гандляры не страйкуюць? Атрымаў такі просьценькі беларускі адказ: кіраўніцтва рынку паставіла ўмовы, пры якіх гандляр мусіць загадзя плаціць за месца на рынку ў разьліку на поўны месяц, прычым нікога не цікавіць, колькі дзён у гэтым месяцы ты зьбіраешся гандляваць. Хоць адзін дзень – усё адно плаці за месяц. Які сэнс страйкаваць, калі заплочана за месяца? Калі не заплоціш, больш месца ня ўбачыш. А гэта прыкладна тое самае, што выставіць работніка за вароты прадпрыемства. Хочаш жыць, слухай начальства! Будзеш страйкаваць, атрымаеш поўную свабоду. І гандлюй семкамі ля ПТВ.

Узьнікае пытаньне: чаму падатковыя кантралёры не чапаюць полацкіх прадпрымальнікаў? Я маю наконт гэтага наступную думку: полацкі кірмаш — адзін з найбагацейшых у вобласьці (у некалькі разоў буйнейшы за наваполацкі), амаль увесь прыбытак ад яго ідзе ў абласную казну. Абласным бюджэтам не рызыкуюць. Наваполацкі ж кірмаш належыць гораду. "А ў Наваполацку ж ёсьць "Нафтан" і "Палімір," – думаюць там, наверсе. – Дык неяк пражывуць і без прадпрымальніцкіх падаткаў".

**Тамаш Гурба**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Страйкавы лідэр са спальнага раёну

*Партрэт Валер'я Леванеўскага, завадатара прадпрымальнікаў і кандыдата ў прэзыдэнты*

Гарадзенскія журналісты жартуюць, калі ў краіне пэрыядычна страйкуюць прадпрымальнікі (апошні раз — на мінулым тыдні) – во, маўляў, дырыжыруе работай усіх беларускіх рынкаў наш Валеры Леванеўскі, седзячы ў сваёй кватэры ў гарадзенскім спальным раёне Дзевятоўцы.

І гэта праўда. Два гады таму пасьля загадкавай сьмерці Арнольда Пячэрскага кіраўніцтва беларускім страйкавым камітэтам прадпрымальнікаў пераняў Валеры Леванеўскі. Але ўжо раней ягоны ўплыў у страйкаме быў адчувальны. У страйках вялі рэй гарадзенцы, разварушваючы і заахвочваючы ўсіх іншых.

У Горадні Леванеўскі зьбіраў сходы, на якія сыходзілася больш за тысячу прадпрымальнікаў. Ужо абмяркоўвалася нават пытаньне аб стварэньні прадпрымальніцкай палітычнай партыі. Хаця ў Леванеўскага нямала непрыяцеляў, прадпрымальнікі звычайна дружна адгукаліся на прапановы страйкаваць, спыняючы гандаль часам нават на месяц. Гэта, па-першае, было "цэхавым" пратэстам супраць закручваньня ўладамі гаек. Па-другое, Леванеўскаму ўдаваліся дзьве рэчы: шырока інфармаваць і арганізоўваць людзей на страйк.

Неўзабаве яму ўжо стала замала Горадні. Мабыць, адчуўшы за сабою сілу, уласную важкасьць, Леванеўскі палаяўся з гарадзенскімі дэмакратамі. Але сіла гэтая шмат у чым уяўная. Леванеўскі па сутнасьці быў і застаецца адзіночкам, чалавекам-аркестрам. Палаяўшыся з дэмакратамі, ён зрабіў наступную памылку — стаў пісаць на іх пасквілі і рассылаць па рэдакцыях. Але амаль ніхто не спакусіўся на ягоныя груба зробленыя опусы.

Падобныя дзеяньні, празьмерная энэргія і выключная самастойнасьць нечакана стварылі яму рэпутацыю правакатара. Дэмакраты менавіта так пачалі называць яго паміж сабою. І нават калі на пятнаццаць сутак пасадзілі не кагосьці зь іх, а менавіта Леванеўскага, яны вырашылі чамусьці, што гэта таксама сьведчаньне нібыта ягонага "правакатарства". Хаця справа была яўна сфабрыкавана міліцыяй: маўляў, Леванеўскі арганізаваў на ганку гарвыканкаму мітынг прадпрымальнікаў. Аўтар гэтых радкоў быў сьведкам падзеяў ад пачатку да канца — да арышту Леванеўскага амонаўцамі. Міліцэйскае начальства ажно шалела пры адной толькі згадцы пра Леванеўскага, які рэгулярна рассылаў ва ўсе праваахоўныя органы лісты з папярэджаньнем, што ўсім ім давядзецца адказваць, калі да ўлады прыйдуць дэмакраты.

Рэч у тым, што Леванеўскі — выразны халерык, зь яго напросту мкне энэргія. Ён ніколі на людзях не злуе, не абураецца, стараючыся, наадварот, пасьміхацца. Гэта, як кажуць, шчасьлівы ў шлюбе чалавек. У яго шматдзетная сям'я, жонка таксама займаецца актыўнай грамадзкай дзейнасьцю. За кратамі Леванеўскі ўпершыню ў жыцьці пачаў пісаць вершы, прысьвячаючы іх жонцы. Ён выпускае адразу некалькі бюлетэняў — такіх, як *"Предприниматель"*. Праводзіць збор сродкаў і раздае рэчы і слодычы дзецям зь незаможных сем'яў.

Леванеўскі хацеў балятавацца ў палату прадстаўнікоў 15 кастрычніка летась. Але ўлады не дапусьцілі яго да выбарчай кампаніі. Ён выконвае сёньня вельмі патрэбную функцыю — кіруе, наколькі гэта ўдаецца, прадпрымальніцкім рухам. А гэта не ўдавалася нават усім партыям, разам узятым. Праўда, Леванеўскага выключылі з АГП. Зноў-такі за раскольніцкую дзейнасьць у дэмсілах на мясцовым узроўні.

Сапраўды адмоўную ролю Леванеўскі мог бы выканаць, бадай, толькі ў адным выпадку. У Горадні добра вядомыя "прэзыдэнцкія" амбіцыі Леванеўскага. Каб ён здолеў сабраць патрэбную колькасьць галасоў для рэгістрацыі ў якасьці кандыдата, гэтым бы, напэўна, зрабіў рэальную шкоду. Па-першае, ён пераацэньвае ўласныя сілы і магчымасьці. Ды самае галоўнае ня гэта. Прадпрымальнікі аб'ектыўна зацікаўленыя ў зьмене ўлады, у дэмакратычным прэзыдэнце. Але гэта зусім ня значыць, што яны павінны вылучаць кандыдата з уласных шэрагаў. Нават наадварот, створаны ім уладай імідж "жульля" робіць іхнага вылучэнца адназначна непраходным. Такі кандыдат быў бы зручны толькі ўладам, зь якімі сёньня Леванеўскі змагаецца. А ўвогуле пытаньне ў тым, за каго захочуць галасаваць самі прадпрымальнікі. Я асабіста перакананы напэрад: ва ўсякім разе — не за Леванеўскага.

**Сяргей Краўцоў**



Справа — Валеры Леванеўскі

# Так сказаў Лукашэнка

«Я не магу сказаць, што я бачу свайго суперніка, якога апазыцыя вылучыць аднаго супраць Лукашэнкі. Для мяне гэта быў бы падарунак. Я б ім усюды задаваў толькі адно пытаньне: «Скажыце, як нейкі кандыдат... можа аб'яднаць вужа з вожыкам?..» Нейкі адзіны кандыдат будзе прадстаўляць лібэрал-дэмакратаў, нацыянал-фашыстаў, бэнэфаўцаў, буржуяў гэтых – АГП, камуністаў-калякінцаў – гэта ж наагул разнашэрсная маса».

«Уявіце, прыйдзе нейкі іншы чалавек. Вы ўяўляеце, каб перамагчы сёньня Лукашэнку, які мае ўладны рэсурс, колькі ж трэба грошай і падтрымкі... Той, хто падтрымлівае, хто дасьць грошы, – ад таго новы чалавек будзе залежаць... Мне ня трэба ісьці кланяцца і прасіць у каго-небудзь грошы на выбары, каб утрымаць уладу. І вось у гэтым самая галоўная незалежнасьць кіраўнікоў дзяржаваў».

«Мне ўдалося стварыць магутную, моцную ўладу, яшчэ, можа, неэфэктыўную, яшчэ, можа, якая ня вельмі падабаецца людзям. Але яна ёсьць, яна ўжо ў брудзе не валяецца».

«Ёсьць прадпрымальнікі, ёсьць бізнэсмэны, ёсьць камэрсанты, а ёсьць проста жулікі. Да апошніх... вы ведаеце маё стаўленьне. Камэрсантам мы не перашкаджаем, але і дапамагаць ня будзем, бо ў нас грошай на гэта няма. Хочаце займацца... дзе-небудзь купіце – прадайце, але заплаціце падаткі – вы ня бедныя. І сёньня забастоўкі ладзіць з прычыны таго, што «мы ня будзем гандляваць у ларках», – не гандлюйце. Я буду глядзець-глядзець, а потым дам каманду – і там будуць гандляваць іншыя...».

**Цытаты з выступленьня А.Лукашэнкі на БТ 6 студзеня, паводле БелаПАН**

навіны за тыдзень

### РУЙНАВАНЬНЕ КРЫЖОЎ

Каля вёскі Парэчча Слонімскага раёну быў зруйнаваны крыж, усталяваны сябрамі спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край" у гонар Міхала Валовіча – беларускага патрыёта й рэвалюцыянэра, актыўнага ўдзельніка нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1830—31 г. На думку "краёўцаў", да гэтага блюзьнерства прыклалі руку мясцовыя ўлады ў асобе намесьніка старшыні райвыканкаму Тарсунова ды старшыні сельсавету Падрэцкага, які за колькі дзён перад тым падбухторваў жыхароў Парэчча разбурыць крыж.

І гэта не адзінкавы выпадак. Так, у сьнежні 1999 г. у мястэчку Вызна быў зьнішчаны крыж, якім арганізацыя "Край" ушанавала памяць героеў Слуцкага паўстаньня 1920 г. Вясной 2000 г. зьнікла памятная дошка Тадэвушу Касьцюшку ў вёсцы Сяхновічы. А зусім нядаўна ў Гародні бязбожнікі выкралі крыж, які вернікі-патрыёты паставілі на месцы ўзарванай саветамі Фары Вітаўта.

### НОВЫ БЕРАСЬЦЕЙСКІ ЯПІСКАП

Кіраўніком Берасьцейскай і Кобрынскай япархіяў прызначаны архімандрыт Сафроні, які да гэтага быў намесьнікам мужчынскага манастыра ў Лядах на Меншчыне. Хіратонія адбудзецца ў Менску 4 лютага. Нарадзіўся айцец Сафроні ў вёсцы Гяршоны пад Берасьцем, якраз тамака, дзе ў 1648 г. забілі сьвятога Афанасія Філіповіча.

### КУДЗІНАВА МОГУЦЬ ЗВОЛЬНІЦЬ

Адвакат палітвязьня Ўладзімера Кудзінава спадзяецца вызваліць свайго кліента. Новы крымінальны кодэкс прадугледжвае мякчэйшае пакараньне за правапарушэньне, якое інкрымінавалі Кудзінаву (яму далі 7 гадоў, якія потым скарацілі на 2 гады па амністыі). У Менскі абласны суд ужо накіравалі адпаведную скаргу. Калі яе задаволяць, Кудзінаў выйдзе на волю.

### ЗАБАРОНЕНА ПАЛІЦЬ

З 1 студзеня ва ўсіх бальніцах забаронена паліць – і хворым, і лекарам. Міністэрства аховы здароўя рыхтуе ўказ, які забароніць паленьне і ў іншых установах – культурніцкіх, навучальных, навуковых. Звычку паліць мае сёньня 45% беларусаў, 42 чалавекі ў краіне паміраюць штодзень з-за хваробаў, выкліканых тытунём.

### РАСЕЙЦЫ МЯНЯЮЦЬ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

НТВ ды РТР мяняюць сваіх уласных карэспандэнтаў у Беларусі. На месца Аляксандра Калпакова карэспандэнтам НТВ прыедзе нейкі з Варонежу. Невысока ж цэніцца Беларусь у расейскім журналісцкім раскладзе. На РТР, дзе працавала беларуска Алена Лукашэвіч, пакуль невядома, хто прыедзе. Але пэўна што ўжо не беларус.

### СЬМЕЛАЯ ДЫПЛЯМАТКА

3 студзеня а палове на восьмую вечара ў Маскве напалі на другога сакратара пасольства Беларусі ў Расеі Марыю Марозаву. Нехта выхапіў у яе сумачку з дыпляматычнай карткаю, ключамі ад кватэры ды 150 расейскімі рублямі. Адбылося гэта каля амбасады Этыёпіі. Яна стала адбівацца і не дала абабраць сябе да ніткі. Узбудзілі крымінальную справу.

### МОСТ У ВІЦЕБСКУ

У Віцебску пабудавалі новы мост даўжынёю 530 м цераз Лучосу. Зараз жыхарам спальных мікраёнаў будзе нашмат ямчэй дабірацца да адной з найбуйнейшых прамысловых зонаў места.

### ЗЛОДЗЕЙ ЗАГІНУЎ АД ТОКУ

4 студзеня за 1,5 км ад Нараўлянаў знайшлі мерцьвяка. Чалавек вырашыў нарэзаць электрычнага дроту, каб потым яго прадаць, але перабытаў нядзейную лінію электраперадачы з суседняй, магутнасьцю 110 кВ. Раней небараку ўжо судзілі за продаж каляровага мэталу.

**Алесь Кудрыцкі**

## Памёр Янка Золак

30 сьнежня 2000 году а шостай гадзіне вечара ў шпіталі сьв.Пятра ў горадзе Нью-Брансьвіку (ЗША) памёр беларускі паэт Янка Золак (Антон Даніловіч). Пражыў 88 гадоў. З 1944-га году ў эміграцыі. Актыўны ўдзельнік беларускага руху на чужыне. Рэдагаваў часопіс "Беларуская думка". Выдаў 2 тамы сваіх твораў у ЗША і зборнік выбранага "Вятрыска з радзімай краіны" ў Беларусі. Любіў Бацькаўшчыну, марыў памерці на роднай зямлі. Пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры, Нью-Джэрсі, ЗША. Вечная памяць.

**Л.П.**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК



«Сапатысцкая футбольная каманда нацыянальнага вызваленьня»

# Мэксыканская Панама

*Змаганьне ч'япаскіх партызанаў можа быць выгаднае... ЗША*

Адкрытая ўзброеная барацьба ў мэксыканскай правінцыі Ч'япас цягнецца з 1994 г., хоць у апошнія гады крыві лілося няшмат. Апошнія падзеі паказваюць, што сапатысты могуць перацягнуць шчасьце на свой бок. Новы прэзыдэнт краіны ад правіцы, Вісэнтэ Фокс, якога "прагрэсіўная грамадзкасьць" падазрае ў сымпатыях да паўночнага суседа, ледзь уступіўшы на пасаду, адразу выпускае на волю сапатыстаў, перадае ім вайсковыя базы і выводзіць войскі. Гэтым ён выразна процістаўляецца пазыцыям сваіх папярэднікаў — нацыяналістычных урадаў Інстытуцыйна-Рэвалюцыйнае Партыі, якія жорстка процістаялі сапатыстам, спачатку спрабуючы задушыць збройна, а пасьля ўсяляк байкатуючы выканаваньне заключаных з субкамандантэ пагадненьняў.

Апошнія крокі мэксыканскага прэзыдэнта наводзяць на думку пра іхную сувязь з павелічэньнем амэрыканскага ўплыву ў Мэксыцы. Ці могуць сёньня Злучаныя Штаты спрычыніцца да незалежнасьці Ч'япасу, як колісь спрычыніліся да незалежнасьці Панамы ў 1902 г.? Тады, дзякуючы зацікаўленасьці ЗША ў кантролі над стратэгічным каналам, ад Калюмбіі адарвалася новае дзяржаўнае ўтварэньне — Панама. Хоць для яе ўзьнікненьня існаваў мінімум перадумоваў.

Ч'япаскія паўстанцы маглі б прыглядзецца да гэтага гістарычнага досьведу. Яны маюць шанец з дапамогай ЗША стварыць нармальную дзяржаву. Як па-мойму, дык усё адно, з чыёй дапамогай яны гэта зробяць. Дасёньня на іх сумленьні няма ні сумнеўных апэрацыяў з наркатой, у якія ўцягнуліся ўсе лацінаамэрыканскія партызанкі, ані крывавых масакраў. Насельнікі тых мясцінаў маюць і этнічныя, і культурныя падставы для адасабленьня, бо крайні поўдзень Мэксыкі й Гватэмала — гэта цэнтры цывілізацыі мая, адрозная ад цывілізацыі ацтэкаў, што квітнела наўкол Мэхіка.

Амэрыканцы — вядомыя дабрадзеі, але новая краіна можа быць і карыснай для іх, сама мала па двух матывах. Па-першае, дзеля верагодных прыродных багацьцяў краю, перадусім нафты й серы. Амэрыканцам варта дабівацца незалежнасьці Ч'япасу, бо размаўляць зь ім будзе лягчэй, чым з Мэксыкай, што мерылася (і мерыцца?) стаць вялікай дзяржавай ды дамінаваць над усім гішпанамоўным амэрыканскім сьветам.

Яшчэ больш звабная выглядае іншая выгода — стварэньне буфэрнай дзяржавы паміж спакойнай і заможнай поўначчу Амэрыкі, зьяднанай у эканамічны хаўрус NAFTA, і бурлівым поўднем кантынэнту. Некаторыя камэнтатары ставяць сапатысцкае паўстаньне ў адзін шэраг з уступленьнем Мэксыкі ў NAFTA, своеасаблівы амэрыканскі адпаведнік Эўразьвязу, дзе рэй вядуць Штаты. Кажуць, што паўстаньне было ўзьнятае, каб сарваць паўночнаамэрыканскую інтэграцыю. Паводле задумы, Мэксыка мае ў гэтым зьвязе дагнаць сваіх хаўрусьнікаў па эканамічным разьвіцьці, але, відавочна, гэта адбудзецца нягутка, затое "амэрыканізацыя" краіны прыйдзе неўзабаве – з адваротным эфэктам у выглядзе ўмацаваньня антыамэрыканскіх настрояў. А амэрыканцы і мэксыканцы ніколі не вызначаліся ўзаемнай любоўю — занадта розныя мэнталітэты. Так што адным з дэманаў амэрыканскага грамадзтва разам з ісламістамі могуць неўзабаве стаць ваяўнічыя мэксыканцы.

Адарваўшы ад Мэксыкі адсталы поўдзень краіны з Ч'япасам, шматгадовай гарачай кропкай Мэксыканскіх Злучаных Штатаў, што цяпер мае ўсе шанцы стаць крыніцай бясконцых турботаў для NAFTA, ЗША дададуць Мэксыцы стабільнасьці й міру. У Вашынгтоне, магчыма, не забыліся пра слынную Мэксыканскую рэвалюцыю пачатку XX ст., праведзеную Э.Сапатам і ягоным войскам, якое прыйшло з поўдня — амэрыканскае войска тады не дало рады паўстанцам. Сапата ўпарта называў свой чын першай сацыялістычнай рэвалюцыяй, спрабуючы адабраць першасьць у расейскіх бальшавікоў. Яго змаглі-такі забіць — з засады тысяча жаўнераў прыцэлілася й адначасова стрэліла ў яго, але ў Ч'япасе і сёньня жыве легенда пра шэрага каня Сапаты, што бяз коньніка ўсё скача па гарах на поўдзень. І калі Маркас сядзе на каня...

Не назавеш зручнай і мяжу NAFTA, што цяпер выходзіць на кардоны сярэднеамэрыканскага сьвету зь ягонымі непрыемнымі для ЗША традыцыямі — бясконцымі войнамі, нялюдзкімі дыктатурамі, вытворчасьцю наркотыкаў...

Інтэгруючыся з Мэксыкай, ЗША трапляюць у сытуацыю, аналягічную эўразьвязаўскай у турэцкім пытаньні — ніяк ня вырашыць, што рабіць з Турэччынай з-за курдзкае вайны і мяжы з Хусэйнам. ЗША зьвязаліся з Мэксыкай, і цяпер ім давядзецца вырашаць ейныя праблемы. Адным з разьвязаньняў можа стаць стварэньне з бунтоўнага Ч'япасу больш-менш стабільнае буфэрнае дзяржавы. Якое, магчыма, ужо пачалося. Праўда, Маркас у сэпаратызьме заўважаны ня быў, але й панамцы да пэўнага часу таксама не былі. Дык ці гатовы субкамандантэ стаць прэзыдэнтам?

**Сяргей Радштэйн**

# Угандыйска-беларускі канфлікт

**Угандыйскім парлямэнтарам, што расьследуюць падазроную зьдзелку 1996 г. па закупцы гелікоптэраў і танкаў у Беларусі й Баўгарыі для войска гэтай афрыканскай дзяржавы, не ўдалося атрымаць беларускія візы.**

Пяцём апазыцыйным дэпутатам на чале з Крысам Мудулам адмовіла ў выдачы візаў беларускае пасольства ў Лёндане. Парлямэнтары, што па 10 дзён знаходжаньня ў Эўропе вярнуліся на радзіму, хацелі праверыць цэны і падрабязнасьці дамовы, паводле якой Беларусь прадала Ўгандзе два неадрамантаваныя гелікоптэры па кошце адрамантаваных.

Мудула заявіў, што аналягічны даклад па баўгарскім сьледзе будзе гатовы 20 студзеня. Што да няўдачы ў Беларусі, дык ён сказаў, што, "магчыма, асобы, замяшаныя ў тую справу, прыклалі тутака руку. Мы зьбіраемся атрымаць больш фактаў. Але цэлы месяц мы марна спрабавалі наладзіць афіцыйныя кантакты зь беларускімі ўладамі".

**Паводле *New Vision*, Уганда**

праўда жыцьця

## Заляцелі...

Яшчэ ніхто так ня зьдзекаваўся з ідэоляга Лукашэнкі Ў.Замяталіна, як англамоўнае Інтэрнэт-выданьне *Russia Today*. На ягоным сайце зьмешчанае паведамленьне пад загалоўкам *Belarus to Fly Iraq* (Беларусь паляціць у Ірак), дзе распавядаецца, як той дамовіўся ў Багдадзе пра рэгулярныя авіярэйсы туды зь Менску. Са спасылкай на ірацкае радыё паведамляецца, што ў Ірак лётаў *"Uladzimir Zalyatalin"*. Хаця некаторыя чыноўнікі ўжо даўно называюць яго *"первый заметалин главы администрации"*.

**Зьміцер Каляразкі**

*Чужаземцы тоўпяцца каля параходных прыстаняў. Сьветлавалосыя нарвэжцы, шыракатварыя шведы, палякі, мурзатыя, нізкарослыя, у клубах часнычнага паху, жыхары Міжземнаморскага ўзьбярэжжа, вялізныя славяне, тры кітайцы, некалькі ласкарыйцаў.*

**Джон Дос Пасас, "Мангетэн"**

# Дабро і зло эміграцыі

Славамір Адамовіч

## ПРАВА НА ВОЛЮ

Некаторыя мае знаёмыя кажуць, што ў Беларусі няма чаго рабіць з восені 1996 г. У тым сэнсе, што пасьля ўзмацненьня асабістай улады Лукашэнкі і ягоных падхалуйнікаў жывая, творчая праца і рост нашага дабрабыту на тэрыторыі Беларусі немагчымыя. Асабіста я мяркую, што жаданьні пакінуць Беларусь у многіх беларускіх грамадзянаў абвострацца ў апошнім квартале наступнага году — пры ўмове, што гэтым грамадзянам ня ўдасца адхіліць існуючы рэжым ад улады і паўзучая ліквідацыя Беларускай незалежнасьці будзе працягвацца. Яшчэ я думаю, што безумоўнае маральнае права на эміграцыю зь Беларусі яе грамадзяне атрымалі ня столькі восеньню 96-га, колькі вясною — пасьля ўцёкаў Зянона Пазьняка...

чы пад'езд яго менскага дому. Няхай цяпер сынок дае рады пахам Нью-Ёрку (Беларусі ў наш трывожлівы час патрэбны грамадзяне з моцнымі насамі).

Добра, што ты пакідаеш Беларусь, каб *там* зарабіць шмат грошай і стаць мэцэнатам беларускага мастацтва альбо фундатарам партыі нацыянальных інтарэсаў.

Добра, што ты пакідаеш тваю Краіну, практычна нічога ня ведаючы пра яе. *Там* ты вельмі хутка даведаешся пра ВКЛ і навучышся адрозьніваць бараду Багушэвіча ад барады Крэчэўскага.

Добра, што ты пакідаеш Краіну беларусам сьвядомым. Ёсьць надзея, што *там* ты зоймешся ня толькі бізнэсам, але станеш актыўным чыньнікам беларускага грамадзка-палітычнага жыцьця на чужыне.

Добра, што ўвогуле ты выбіраешся самаволяй на Захад, а не пад прымусам на Ўсход.

ваць толькі ў закрытых памяшканьнях, якіх, што праўда, тысячы й тысячы.

Хваленая амэрыканская ўсьмешка — гэта ня столькі знак ветлівасьці, колькі перасьцярогі: хто ведае, што ты там надумаў.

У Нью-Ёрку на кожнай стрыт/авэню штосьці будуюць альбо рамантуюць. Таму прахожым на галовы часта падаюць элемэнты будаўнічай вытворчасьці.

Калі раптам амэрыканскаму паліцэйскаму ўздумалася цябе затрымаць, найперш пакажы яму твае пустыя далоні. Гэта яго крыху супакоіць, і, магчыма, ён ня будзе падымаць гвалту й страляць без папярэджаньня.

Ад'яжджаючы ў ЗША, пакінь дома твае любімыя чорныя плаўкі. Амэрыканскія гетэрасэксуалы купаюцца выключна ў шортах па калена, а то і ніжэй. Манаполію на майткі там захапілі гамасэкі.

У Нью-Ёрку хлеб нясмачны й да-

100 кожны на пляцоўцы, абгароджанай трохмэтровай сеткай, лупяць маленькімі мячыкамі ў сьцяну дому, а ты ледзь ногі цягнеш да сабвэю пасьля 10 гадзін работы на будоўлі, сілаў для абурэньня ўжо няма. Усё, што ты можаш, гэта падумаць: калі ў мяне будзе шмат грошай і вольнага часу, то не, ня стану я займацца такім глупствам.

Адзін токен (жэтон) на праезд у нью-ёрскай падземцы каштуе паўтара даляры, а праязная картка на сем дзён — сямнаццаць даляраў.

Што б ты дзе ні купляў — гандлюйся. Бывае, што ўпадабаную рэч можна купіць напалавіну таньней ад першапачаткова заяўленай цаны.

## ЯК ТРАПІЦЬ У ЗША?

Найлепш трапляць у гэтую краіну легальнымі шляхамі, атрымаўшы рабочую, студэнцкую, гасьцявую візу альбо выйграўшы так званую "Зялёную карту" ("Грын-карту"). Некаторую інфармацыю можна атрымаць у работнікаў амэрыканскага пасольства (уваход з боку вуліцы Камуністычнай у Менску) альбо з матэрыялаў інфармацыйнага стэнду гэтае ўстановы.

Можна ехаць і самадумам, спрабуючы трапіць у ЗША з Канады, напрыклад, альбо з Мэксыкі. Але гэткія варыянты лепш пакінуць натурам авантурыстычным.

Ведаю колькі беларусаў, якія паехалі ў Штаты сьледам за сваімі жонкамі-жыдоўкамі. Хто-ніхто зь іх кляне цяпер і сваё неразумнае жаніміства, і краіну жончынай мары.

Ёсьць шанец трапіць у ЗША і па так званай "палітычнай часьці". На жаль, прыкладаў хапае: сходзіў разДругі на мітынг, трапіў пад раздачу міліцэйскіх "гасьцінцаў", засьвяціў сваё прозьвішча ў праваабарончым бюлетэні — і можна сьмела шыбаваць у *іхнае* пасольства па візу. Глядзіш, праз які месяц ты ўжо па другі бок Атлянтычнага акіяну — рыхтуеш дакумэнты на палітпрытулак...

## ЭМІГРАЦЫЯ "НОВАЙ ХВАЛІ"

На 24-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі Старшыня Вярхоўнай Рады 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі заявіў, што новае — 90-х гадоў — рушэньне беларусаў на Захад трэба называць палітычнай эміграцыяй. Аднак прысутны на згаданым мерапрыемстве палітэмігрант Зянон Пазьняк сказаў нешта процілеглае: на яго думку, новая беларуская эміграцыя мае пад сабой эканамічны грунт. Што ж, як той казаў, і дзед мае рацыю, і тата. Аб'яднаўшы гэтыя дзьве пазыцыі, мы можам атрымаць больш-менш аб'ектыўную карціну: сёньняшняя беларуская эміграцыя "новай хвалі" зьяўляецца палітыка-эканамічнай. Характэрнымі прадстаўнікамі палітычнага крыла якраз і выступаюць Зянон Пазьняк і Сямён Шарэцкі. Мяне, аднак, цікавіць лёс так званых эканамічных эмігрантаў. Пераважна зь імі, зь беларускамі й беларусамі, якія прыехалі ў ЗША, каб застацца там і дасягаць матэрыяльных посьпехаў, я трымаў найшчырэйшыя і найбольшыя рабочыя кантакты і сяброўскую лучнасьць падчас працы ў Нью-Ёрку.

## З ФАТОГРАФАЎ У БУДАЎНІКІ

Сябра колішняй арганізацыі "Талака", былы салдат-"аўганец" і былы фатограф Алесь аднойчы ў 1992-м сказаў сабе, што беларускае адраджэньне павінны рабіць багатыя беларусы. Сказаў — і зьехаў у Амэрыку зарабляць грошы. У Менску ў яго засталіся два браты й маці.

За восем гадоў працы на будоўлі Алесь стаў прафэсійнікам, гэта значыць майстрам, спэцыялістам у сваёй справе. Памяняў другую ці трэцюю машыну (аўтамабіль яму патрэбны, каб дабірацца на работу), набыў дарагую тэлеапаратуру, вывучыў ангельскую мову. Жыве ў бэйсмэнце — цокальным паверсе прыватнага дому. Ні разу ня быў у адпачынку. Верыць, што яшчэ крыху — і ён стане на ногі, падымецца ў заробках, купіць кватэру ці дом.

Пра ўсё гэта я чую ў яго ў гасьцёх. Мы сядзім за чаркай добрага каліфарнійскага віна і глядзім новы культавы фільм пра Ірляндзкую Рэспубліканскую Армію. "Майкл Колінз" — гэта пра беларускую будучыню. Так кажа Алесь. І калі ўсё ж нам спатрэбіцца зброя, у яго будуць грошы, каб яе купіць...

## ЗАРАБІЦЬ НА... СТАРАСЬЦЬ

Нэля прыехала ў ЗША, каб зарабіць. Наш "родны кут" ня мог ёй забясьпечыць нават кутка ў рабочым інтэрнаце. Зрэшты, Нэля не была рабочай. Яна працавала журналісткай у правінцыйнай газэтцы, выкрывала мясцовых карупцыянэраў ды іншыя сацыяльныя язвы незалежнай РБ, застаючыся безь сям'і, нармальнага жыльля й надзеяў зрабіць кар'еру ў журналістыцы...

Пасьля шасьці гадоў цяжкай працы ў сем'ях нью-ёрскіх жыдоў былая выпускніца журфаку мае разьбітыя нэрвы, аднапакаёўку з сумешчанымі выгодамі і фотаапарат, каб фатаграфавацца сябе на фоне амэрыканскага багацьця. Ёй 42, і яна ўсё цяжэй знаходзіць супольную мову з мужчынамі...

## ШУСТРАЯ

Чарнявая, тлуставатая і пустабрэхлівая Сіма ўразіла сваёй надзвычайнай настырнасьцю й кацінай лісьлівасьцю. На штомесячным сходзе нью-ёрскага аддзелу БАЗы яна пасьпявала пацерціся чалавекаў каля дваццаці. І кожнаму нешта шапне, абнадзеіць, паабяцае, запытаецца. Адным словам, Сіма рабіла паперы на палітпрытулак і шукала, хто б ёй мог падпісаць афідэвіт — пацьверджаньне, што на Радзіме яна цярпела перасьлед за апазыцыйную дзейнасьць і цяпер баіцца вяртацца ў Беларусь, бо там, маўляў, яе чакае турма.

Ці падпісаў ёй хто з нашых тую нахабную хлусьню — ня ведаю. А я, каб адрабіцца ад удлівай дзявулі раз і назаўсёды, назваў ёй цану майго подпісу. Бог сьведка, цану памяркоўную — 500 амэрыканскіх. І што б вы думалі, дарагія мае людзі?! Мая інфармацыя для роздуму ніяк не не зьбянтэжыла. Больш таго, дзявуля запэўніла мяне ў тэлефонную слухаўку, што запатрабуе абмеркаваньня маіх паводзінаў (sic!) на чарговым сходзе рэгіянальнага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Ніякага абмеркаваньня, што праўда, не было. Але й подпісу зь мяне Сімачка больш не цыганіла.

## ШУСТРЫК

Ён Сіме да пары — гэткі ж чарнявы, шустры й пусты. Спрабуе пісаць у жыдоўскія рускамоўныя газэты — пра жыцьцё беларускай дыяспары. Зь Беларусі звалі, бо ў чарзе па яйкі не хацеў стаяць. На беларускіх пікетах пхнецца зь бел-чырвонабелым сьцягам у першыя рады — каб на фатаздымку відаць было. Таксама подпісы жабруе.



Добра гэта ці дрэнна, што мы любімі праўдамі й няпраўдамі імкнемся пакінуць Радзіму? Відаць, ні першае, ні другое. У мяне, напрыклад, атрымліваюцца вось якія адказы.

Нядобра пакідаць Радзіму, калі тут ты да апошняга моманту быў актыўным дзеячам нацыянальна-вызвольнага руху і на цябе раўняліся іншыя, асабліва моладзь.

Нядобра пакідаць сваё котлішча таты, калі ў тваёго суседа для такога ўчынку ёсьць важнейшыя падставы.

Нядобра пакідаць Беларусь у час, калі вырашаецца лёс незалежнасьці гэтай краіны.

Вельмі нядобра пакідаць Бацькаўшчыну, калі тут ты ніводнай ночы не быў Міронам, а за мяжою зьбіраешся прэтэндаваць на статус Пазьняка.

Двойчы нядобра, калі ты пакідаеш Беларусь як Беларус, а ў Нью-Ёрку ідзеш атрымліваць вэлфэр як Жыд...

Зрэшты, у зьяве, якую мы называем эміграцыяй, можна ўбачыць і станоўчыя бакі.

Напрыклад, гэта добра, калі ты пакідаеш Краіну з той прычыны, што табе абрыдла стаяць тут у чарзе па яйкі. *Там* ты настаішся ў чарзе па *іхнае* грамадзянства.

Добра, што прычынай ад'езду сынка вядомага беларускага пісьменьніка стаў вечна сьмярдзю-

## ВЫБІРАЕМ АМЭРЫКУ?

З пачатку 90-х куды толькі нашы не выяжджалі: Бэльгія, Нямеччына, Францыя, Чэхія, Вялікабрытанія... Адзін тутэйшы сваю жонку зь дзіцем адвёз ажно ў Новую Зэляндыю (сам, праўда, вярнуўся, бо яму й тут пакуль што ўтульна). Але найбольш інтэнсіўна беларус цягнецца ў Паўночную Амэрыку. І правільна робіць, бо, як вядома, ЗША — краіна вялікіх магчымасьцяў. Краіна, якая сёньня прапануе і работу, і грошы. А нам, як вы разумееце, толькі гэта й трэба — акрамя ўсяго іншага.

## ШТО ВАРТА ВЕДАЦЬ

Найперш трэба падрыхтавацца да праяваў амэрыканскай дэмакратыі, да як прыемнай, гэтак і непрыемнай драбязы.

Напэўна ж ты чуў, што ў нью-ёрскай падземцы брудна і сноўдаюць туды-сюды нахабныя пацукі. Гэтая сьвятая праўда. А вось да попельнага колеру вавёрак прывыкнуць цяжка, нават калі ведаеш пра гэта загадзя. Адно суцяшае: *іхная* векша некалі таксама была рыжай — выдаюць падпалінкі каля шыі і на лапках.

Калі ты дагэтуль марыш папіць тамтэйшага піўца каля якога-небудзь Ракфэлер-цэнтру, што ў Мангетэне, — пакінь надзею. У Нью-Ёрку алькаголь дазваляецца спажы-

рагі. Для нашага чалавека гэта зарэз. І адвыкнуць ад свайго не адвыкнеш, колькі б там ні жыў.

А вось ад цыгарэтаў адвыкай ужо зараз, калі зьбіраешся ў Нью-Ёрк. Там гэтая дрэнная звычка будзе каштаваць табе $4.50 за пачак любых цыгарэтаў зь фільтрам.

У белых красоўках *там* езьдзяць на працу.

У апошні дзень перад ад'ездам прайдзіся па тваім горадзе, паглядзі на нашых людзей. Лічы, што ты апошні раз бачыў *стройных*.

Гэта неверагодна, але Галівуд у сваіх фільмах паказвае *сапраўднае* амэрыканскае жыцьцё... бандытаў, наркаманаў, прастытутак ды рознай іншай сволачы. Павер, яе там хапае.

Гэта праўда, што ў ЗША ўсе працуюць з раніцы да вечара. Таму й багатыя.

О, колькі ў Амэрыцы мастоў! Мост "Залатыя вароты", напрыклад, які зьвязвае дзьве часткі Сан-Францыска. Альбо нью-ёрскія гіганты — Бруклінскі мост праз Іст-Рывэр і Вэразана-Нэроўз, які злучае Бруклін з выспай Стэйтан. Адным словам, цыкляпічныя збудаваньні ўражваюць і спакушаюць. Ды так, што час-часом маленькія чалавечыя фігуркі зрываюцца з архітэктурных шэдэўраў і тым завяршаюць сваё свабоднае жыцьцё ў свабоднай краіне.

Калі а 6-й вечара дзясяткі два рознакаляровых бугаёў кіль па 80—

## АРЛЯНЯТЫ, АРЛЁНКІ, АРОЛІКІ...

На наша шчасьце, тут, у Беларусі, у межах Бацькаўшчыны, яны ёсьць — Купалавы *арляняты*, якім Вялікі Паэт даваў *"сярпы і косы ў рукі Ды мячы, каваны з сталі"*, каб *"здабытую свабоду Зналі, шанавалі І у цяжкую прыгоду Ўсталі грозной хваляй"*.

Сапраўды, мы ведаем прозьвішчы сотняў маладых беларусаў — школьнікаў, навучэнцаў прафтэхву-

чылішчаў і коледжаў, ліцэістаў, студэнтаў ВНУ, якія робяць штодзённую і разам з тым гераічную работу ў імя свабоды Бацькаўшчыны. Без ілжывага патасу й футурыстычных нацяжак можам сьцьвярджаць: на вулічных акцыях беларускія арляняты вырастаюць у гордых і дужых арлоў, якія ня маюць такой звычкі — адлятаць у вырай.

Іншыя арляняты прылятаюць у беларускія гнёзды замежжа. Пра двох шустрых арлёнкаў мы ўжо згадалі. Ёсьць таксама й ціхаходы, якія наперад ня лезуць, але й свайго не ўпускаюць. Хай бы сабе й так было: ідуць маладыя ціха і ўпэўнена да мэты. Хай бы сабе. Але што ж, скажыце, нам думаць пра арлёнка, які перад рэпрадукцыяй партрэту Лява Сапегі робіць вялікія вочы няведаньня? І гэта пасьля сканчэньня Менскага гуманітарнага ліцэю! Зрэшты, можа і сапраўды неабавязкова ведаць пра гістарычнага Лява Іванавіча, каб патрапіць на вучобу ў Пэнсыльванію, летам прыяжджаць у Нью-Ёрк на практыку, жыць у гасьціннай беларускай Фундацыі імя Крэчэўскага, не перажываць наконт аплаты за месца пад дахам, спакойна ўплятаць ёгурты і штовечар глядзець амэрыканскія мульцікі?

Калі наш былы ліцэіст N, зачараваны Злучанымі Штатамі, праваліў “тэст на Сапегу” (дарэчы, як і былы прэзыдэнт L.), то сёлетні выпускнік былога наргасу нехта Васіль нас, старэйшых векам кватарантаў Фундацыі імя Крэчэўскага, проста абяззброіў сваім няведаньнем самых элемэнтарных актуаліяў сучаснай Беларусі. Юны дземянцей XXI ст. словы “Пазьняк”, “ВКЛ”, “Марш свабоды”, “Наша Ніва” ды іншыя на тэму Беларушчыны ўпершыню пачуў у ЗША. Вось чаму пасьля таго, як на нашае пытаньне, дзе такі ёсьць горад Вільня, менскі залётка адказаў, што ў Польшчы, мы ўчарнелі аблічамі і адправілі Васільку ў вячэрнія нетры Гілсайду па дадатковы галён каліфарнійскага чырвонага.

Разам зь менскім Васількам прыгнязьдзіўся ў Фундацыі і берасьцейскі Сярожка. Тыдні праз два ўцякач Сярожа купіў аўто, пра што мы даведаліся чыста выпадкова. А вось пра што мы не даведаліся, дык гэта пра тое, хто тыя “надзейныя людзі”, тыя менскія зязюлі, якія рэкамэндавалі прыняць на высядку ў беларускае гняздо за акіянам сваіх тутэйшых аролікаў.

## МАСТОЎСКІЯ

Ёсьць на Нёмане горад Масты. Добры горад, стары, беларускі. Меў некалі магдэбурскае права, мае цяпер прэзыдэнцкую “вэртыкаль”.

Дык вось мастоўскія — гэта тыя, якім тая “вэртыкаль” да лямпачкі.

Мастоўскія — гэта беларуская мафія ў Нью-Ёрку і ваколіцах. Мафія, якая не забівае, не рабуе, а дапамагае сваім землякам выехаць у ЗША, каб зарабіць. Нехта зь Сям'і вырашае застацца ў ЗША назаўсёды, нехта на даўжэйшы час, а хтосьці зарабіў і ўжо вярнуўся ў Масты, вызваліўшы месца суседу.

Як сапраўдныя беларусы, нават аб'яднаўшыся ў Сям'ю, мастоўскія паводзяць сябе сьціпла. Час-часом прыходзяць на сходы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, бяруць удзел у палітычных акцыях, сьвяткуюць беларускія сьвяты...

І вось яшчэ пра паводзіны беларусаў і астатніх. Пакуль “шустрыя” складалі ілжывыя афідэвіты, інтрыгавалі ды нашэптвалі, а менскай зязюлькі аролікі расшыфроўвалі абрэвіятуру “БАЗа”, мастоўскія прыходзілі да нас па Беларускую Кнігу. Пакідаючы ў заклад свае рабочыя даляры, яны забіралі з сабой вершы Багдановіча, Жылкі, эмігрантаў Сяднёва, Салаўя, Крушыны, Арсеньневай... Ня ведаю, ці чыталі мастоўскія хлопцы беларускую паэзію ў Беларусі, але тое, што яны зьвяртаюцца да яе там, на чужыне, сьведчыць пра многае. Пра тое, напрыклад, што мастоўскія — гэта свае: надзейныя, моцныя, працавітыя. Адным словам, беларуская мафія ў ЗША.

## НА ПЕРАЛОМЕ

Першая хваля беларускай палітычнай эміграцыі адыходзіць у гісторыю разам з XX ст. Адыходзіць з радасьцю, пабачыўшы над незалежнай Беларусяй пераможны бел-чырвона-белы сьцяг. Адыходзіць з болем, стаўшы сьведкай рэваншу антыбеларускіх сіл на Бацькаўшчыне.

Адыходзіць, перадаючы сымбалі і тэстамэнты Беларускай Народнай Рэспублікі новаму пакаленьню беларусаў у чужыне. Хочацца верыць, што беларускія эмігранты 90-х ня толькі захаваюць матэрыяльныя і духоўныя набыткі папярэднікаў ды спыняць бессэнсоўны падзел беларускай эміграцыі на так званых “крывічоў” і “зарубежнікаў”, але ўжо ў хуткім часе і Беларускі Дом у Мангетэне пабудуюць, і першы ўласна беларускі касьцёл, і беларускаму нацыянальна-вызвольнаму руху ў мэтраполіі будуць дапамагаць ня толькі пікетамі, але й грашыма, і, нарэшце, зьвернуць увагу на праблему беларускага лобі ў структурах амэрыканскай улады.

Будзем памятаць: *там Беларусь, дзе мы, Беларусы.*

**P.S.** За духоўную і матэрыяльную падтрымку Аўтар выказвае самую шчырую падзяку новым беларускім эмігрантам і часовым гасьцям у ЗША: В.Якімовіч, А.Сурмачу, А.Крыштаповічу, І.Якуніну, А. “мастоўскаму”, А.Калбуну, М.Абраменку, М.Клакоцкаму, В.Дворніку, В.Камінскаму, Ю.Чудзіну-Васілеўскаму, В.Говараву, В.Кузьменку...

# Энцыкляпэдыя беларускага замежжа

Фота Анатоля Клешчука



Янка Раковіч (ЗША)



Антон Ціхінскі (Аўстралія)




Нікадым Жызьнеўскі. Чыкага. Мэтро.

*новы год у опэры*

# Галіна Лукомская

Першыя дні новага стагодзьдзя аказаліся багатымі на спатканьні і ўспаміны. Дзякуй італьянскаму тэлебачаньню, якое прыйшло ў дом разам са спадарожнікавай антэнай — сёлета мы пілі традыцыйнае шампанскае не пад воклічы "ўсенароднаабранага", а пад чароўныя гукі "Тоскі" проста з тэатру "*La Scala*". Галоўную партыю сьпявала, вядома ж, беларуская грамадзянка Марыя Гулегіна. Сьпявала мо ня гэтак добра, як мы спадзяваліся, але, галоўнае, сьпявала, і тое было для нас вялізнаю радасьцю.



А жыўцом мы спаткаліся не з Гулегінай, а зь іншай прыкметнай дзівай зь ліку новаэмігрантаў. 5 студзеня ў касьцёле Сьв.Роха адбыўся першы пасьля 11 гадоў расстаньня камэрны канцэрт Галіны Лукомскай. Многія менчукі – нават тыя, хто былі на той час яшчэ дзецьмі, – напэўна, памятаюць гэтую сьпявачку, якая ўпрыгожвала беларускую опэрную сцэну ў найбольш зорныя для яе 1980-я гады. Цяпер у Беларускай Опэры ўжо няма гэткай яскравай Царыцы Ночы, Марфы, Джыльды... Ня кажучы ўжо пра мэханічную куклу Алімпію з славутай опэры "Казкі Гофмана", якая ўвогуле зьнікла з сцэны.

Памятаю нават не прэм'еру, а генэральны прагон гэтага спэктаклю для міністэрскіх і цэкоўскіх ураднікаў, якія сваёй воляй рашалі, ці можна паказаць яго публіцы. На дварэ стаяў 1983 г. Мае бацькі нейкім чынам набылі запрашальныя білеты, і я, стаіўшы подых, слухала Лукомскую, якая выводзіла сваім звонкім, срэбным голасам галавалומныя афэнбахаўскія каляратуры.

У тым спэктаклі выступаў цэлы букет бліскучых сьпевакоў. Беларуская Опэра хутка ішла ўгару і пры канцы 1980-х апынулася на такіх вышынях, якіх ёй, можа, ужо ніколі не дасягнуць. У тыя гады ў нас сьпявалі прымадона Гулегіна, выдатны тэнар Вячаслаў Полазаў, які пазьней таксама выконваў вядучыя партыі ў нью-ёркскай "*Metropolitan Opera*", дый шэраг цудоўных сьпевакоў, якія не зрабілі гэткіх жа асьляпляльных сусьветных кар'ераў, аднак цалкам на іх заслугоўвалі. Згадаць адну толькі Надзею Губскую... Пераважная большасьць гэтых сьпевакоў ня мела беларускіх каранёў і вучылася за межамі Беларусі. У гэтым сэнсе Лукомская была адным зь нямногіх выняткаў: пачатковую вакальную адукацыю яна атрымала ў Гомельскай музычнай вучэльні, потым дасканалілася ў Беларускай кансэрваторыі пад пільным вокам выдатнае сьпявачкі Тамары Ніжнікавай.

У той час ніхто не дзяліў сьпевакоў на "нашых" і "ня нашых", дый самі яны з аднолькавым энтузіязмам ставіліся да свайго тэатру і ахвотна ўдзельнічалі ў пастаноўках новых беларускамоўных опэраў. Дзіўна, але ў апошнія гады савецкае эпохі беларуская музыка і беларускае слова гучалі на менскай опэрнай сцене нават часьцей, чым на пачатку 1990-х, ня кажучы пра сёньняшняе поўнае занядбаньне.

Ідылія скончылася ў 1988 г. падчас сумна памятнай пастаноўкі "Балю-маскараду" Вэрдзі. Як вядома, Гулегіна зьехала ў выніку грандыёзнага скандалу, які выбухнуў з-за таго, што яна адмовілася сьпяваць партыю Амэліі па-расейску. Лукомская ў гэтым жа спэктаклі мусіла засьпяваць партыю Аскара (аматары опэрнага мастацтва напэўна ведаюць, што ролі хлапчукоў у опэрах выконваюць кабеты), але яе ўвесь час толькі кармілі абяцанкамі. Урэшце яна папрасіла растлумачыць ёй прычыну затрымкі, і рэжысэр (хоць і сам напалову габрэй) спакойна адказаў: "Мне не падабаецца форма Вашага носу". Канечне ж, гэтыя рэзоны ня мелі аніякага дачыненьня да эстэтыкі – тым болей, што Лукомская заўжды глядзелася дасканала.

Сёньня яна ўзгадвае гэтага рэжысэра (даўно ўжо нябожчыка) зь вялізнаю ўдзячнасьцю – хаця б за тыя ўрокі прафэсіяналізму, якія ад яго атрымала. З гэткай жа ўдзячнасьцю яна ўзгадвае і дырыжора, які не хаваў сваёй антыпатыі да ейнага "неславянскага выгляду". Антысэмітызм гэтых людзей быў толькі сродкам прыстасаваньня да агульнай атмасфэры, якая тады панавала. Імпэрскія функцыянэры сутаргава хапаліся за ўладу; антысэмітызм быў іхнай апошняй надзеяй, і яны амаль адкрыта заклікалі працаўнікоў да пагромаў, а габрэяў – да ад'езду з радзімы. Вызначаліся нават даты антысэміцкіх акцыяў. Але замест гэтага працаўнікі выходзілі на вуліцу пад антыкамуністычнымі лёзунгамі. А вось габрэі зьяжджалі – нават ведаючы, што ў Ізраілі іх чакае беспрацоўе. Страшна было за дзяцей; страшна няпэўнай будучыні.

У 1989 г. Галіна Лукомская з дочкамі і мужам выехала ў Ізраіль. Выехала бязь лішняга шуму, ні з кім не пасварыўшыся, не пакінуўшы ў Беларусі ніводнага ворага. Апошні год яна ўсё радзей выступала на опэрнай сцэне, затое сьпявала мноства камэрнай музыкі. І ня толькі ў філярмоніі, дзе плацілі нейкія грошы, але і ў бясплатных канцэртах "Клюбу аматараў опэры". Я добра памятаю апошні ейны канцэрт: разам з Вольгай Цішынай і Рыгорам Палішчуком (абодва пазьней таксама эміґравалі) яна засьпявала вакальны цыкл Зьмітра Шастаковіча "З габрэйскай народнай паэзіі". У залю было не прабіцца...

Потым былі доўгія бадзяньні па сьвеце. Ізраіль, Канада, пяць кантынэнтаў з гастролямі... Апошнім часам да Менску даходзілі чуткі, што Лукомская захварэла на астму і страціла голас.

Аднак жа вось яна, пераможная, і голас ейны гучыць яшчэ прыгажэй, чым некалі, калі ён ледзь не штотыдзень цешыў прыхільнікаў Беларускае опэры. Спачатку рамансы Глінкі і Рахманінава, потым рамансы Чайкоўскага, на закуску – тры арыі зь гішпанскіх сарсуэлаў. Усю музыку яна выконвала з тым ідэалістычным энтузіязмам, якога так часта бракуе расейскім выканаўцам, сьпявала, укладаючы сьвет эмоцыяў у кожную ноту – і аднак жа паўсюль заставалася ў рамках стылю і эўрапейскага добрага густу. Ня дзіва, што захапленьне публікі ўзрастала з кожнай хвілінай! Замёрзлыя, у футрах і шалях (бо ў касьцёле амаль ня паляць, шкадуючы арган), людзі шалёна пляскалі ў далоні, патрабуючы бісоў і забываючыся, што чалавечы голас – гэта ўсяго толькі дзьве танюсенькія зьвязачкі, рэсурс якіх зусім не бясконцы.

Нельга не згадаць арганізатара сёлетняе імпрэзы – піяністку Ганну Каржанеўскую, зь якой сьпявачка сябруе з студэнцкіх часоў. Яшчэ ў юнацтве яны падрыхтавалі разам агромністую колькасьць разнастайных праграмаў, многае запісалі на радыё. І сёньня, праз шмат гадоў, іхны дуэт гучыць дасканала. Толькі шкада, што ня ўсім сябрам і калегам удалося іх паслухаць — у тэатры ў гэты час адбывалася рэпэтыцыя доўгачаканай прэм'еры "Барыса Гадунова".

**Юлія Андрэева**





дыскаграфія

## "REFLECTION". ГРУПА "THE RAVENS". "КОВЧЕГ", 15400. (P) 2000.




Магчыма, калі б той альбом пісаўся на ладна абсталяванай студыі ды пры ўдзеле вушэй прад'юсэра-прафэсіянала, канчатковы вынік быў бы куды больш пераканальны і, галоўнае, выразны. На жаль, менавіта тэхнічная якасьць выдадзенай музыкі і не дазваляе ляпаць крылцамі ў захапленьні ад таго, што зрабілі "Груганы" ў хатняй, трэба думаць, студыі.

Пакіньма тэхнічны бок у спакоі і зьвернемся да боку творчага. Ну, ня ведаю. Здавалася, гадоў з трыццаць таму, на хвалі ўздыму беларускага біг-біту, англійская мова песень здавалася цалкам абгрунтаваная. Тады верылася, што праз год-другі нашыя прарвуцца на Захад і побач зь якімі там "Бягучымі камянюкамі" пачнуць рабіць кар'еру. Міналі гады... Маладыя, што пачыналі сьпяваць па-англійску, упарта біліся ілбамі: мы, маўляў, працуем на ангельскай, бо спадзяемся зрабіць кар'еру ў Эўропе. Не, калі блюз ці джаз – пліз! Але калі ўласны рок – сэнкс! Спасіба, вас ня ждуць! Што праўда, сяму-таму ўдалося і там пайграць. Во Віця Смольскі да гэтага часу зь неслабой нямецкай групай працуе. Але ў масе сваёй нашая англійская ў Эўропе – што нашая беларуская ў Маскве. Сто гадоў патрэбная!

Праўда, тыя ж "Равэнсы" апошнім часам, як чутно было, пачынаюць і іншымі мовамі авалодваць патроху. На гэтым альбоме нават "Купалінку" прадстаўляюць. "Прадстаўляюць", мабыць, найбольш адпаведнае таму дзейству слова. Ня ведаю, якія мэты ставіліся, але атрымалася нешта загадкава-няўцямнае. За такое за часамі камуністаў адпраўлялі ў фальклёрныя экспедыцыі куды пад Магадан. Ды вось што найбольш паказальнае: гэтая песьня – адзіная хіба ў альбоме, якая пазначаная выразнай мэлёдыяй і таму запамінаецца. Іх, мэлёдыяў, "Крумкачам" якраз і не стае найбольш, бо на аснове мэлёдыяў не такія ўжо складаныя песьні і маглі б "зайграць" як мае быць. На жаль...

Праграма, безумоўна, значна выйграла, калі б музыкі ўвесь час знаходзіліся б пад прыглядам якога спрактыкаванага чалавека. Але ці то малавата ў нас такіх, ці то "Крумкачы" занадта ганарыстыя, але жывуць і працуюць яны самастойна, маючы неблагі, зрэшты, патэнцыял.

**Рэфлексійны слухач**

## "TRY ČARAPACHI". ГРУПА "N.R.M.". "BULBA-RECORDS", CD BR 003. (P) 2000.




Пра новыя выданьні такіх культавых калектываў прынята пісаць зь піетэтам ды прыдыханьнем. А вось мяне тая рок-н-рольная канцэптуальнасьць дастала ўжо! Мне б музыкі болей замест рок-н-ролу. А то чую на кожным кроку такія дыялёгі. Пытаньне: "Як бы вы самі назвалі музыку, якую выконваеце?". Адказ: "Ну, гэта такі рок-н-рол у цэлым..." Так звычайна гавораць тыя, хто ня ў стане ствараць музыку. А ўсялякую брыдоціну лягчэй за ўсё назваць рок-н-ролам. Маўляў, на тэрмін усё і сьпішацца.

Гэта я, вядома, не пра хлопцаў з "N.R.M.", якія, як заўсёды, стварылі праграму яркую, зьмястоўную, грунтоўную, зрабіўшы вялікі ўкладак і ўнёсак у сучаснае беларускае музычнае мастацтва. "Бульба-Рэкардз", якая трымае бацьвіньне па ветры, стыражавала той альбом, няблага, трэба думаць, на тым падзарабіўшы. Хоць я буду шчыра зьдзіўлены, калі ягоны наклад дасягне, скажам, тысячаў ста штук. Далібог, не дасягне!

Варта спыніцца на пытаньні: чаму? "N.R.M." – гэта каманда дасьціпных, разумных, сымпатычных людзей. І я разумею, што іронія – гэта часам ці не адзіны сродак як-небудзь супрацьстаяць паскуднай у цэлым рэчаіснасьці. Асабліва тады, калі з задуманага атрымліваецца далёка ня ўсё Сьцёб – таксама пэўная зброя ва ўмелых руках. Сьцёб разам з іроніяй – сумесь, па моцнасьці роўная кактэйлю Молатава. "Манго-Манго" і "Мотаргед" у адной шклянцы. Але, як вядома з працаў патолягаанатамаў, пастаяннае ўжываньне моцных напояў прыводзіць да алькагалізму. Пазьней ці раней.

Алькагалізм – той стан, калі табе здаецца: усё, што ні робіш, – гэта клясна! Дасканала! Геніяльна!

Мне здаецца, што Лявон Вольскі з дружбакамі "Бураціны" перабралі шмат і даўно. Бо чым ёсьць альбом "Тры чарапахі"? Шмат у чым – сьцёбам, час ад часу нават пуставатым, як тыя "пракладкі" бяз творчых крылцаў паміж песьнямі. Яны нібыта надаюць цэламу той самай канцэптуальнасьці, ліха на яе! Рэшта ж амаль уся – суцэльная папса! Папса, пабудаваная на зьнявечаным гучаньні нармалёвых гітар, на зайграных рытмічных зьбіўках, на мэлёдыях, дзякуючы якім "N.R.M.", як і спадзяваліся, прабілася ў кліпавую прастору. Брыдота тыя кліпы! І тое, што на тэлебачаньні кліпамана Вечара ператварылі ў супэрпаглынальніка тлушчу, – абсалютна правільна! А то ён ранкам, маўляў, сьвядомы: кліп для "N.R.M." мантуе – а вечарам ужо такі правільны-правільны: тлушч пляжыць.

Тлушчам тым, здаецца, ці ня ўсе песьні пазаплылі. "Бамжы", напрыклад: нібыта злая-злая песьня, актуальная да самага рыльца! Папса! Ці "Мэнтальнасьць". Гіт, блін, знаходка для Азаронка! У словы песьні "Дастала" – ня веру! Бо сьцёб скрозь. "Катлет-матлет" выбіваецца з цэлага. І за кошт чаго? Вой, як арыгінальна! Арабскі матыўчык у прыпеве. Знаходцы той столькі ж гадоў, як і Памідораву, які тутака азэрбайджанскага араба агучвае. А "Тры чарапахі", я чуў, зьбіраюцца наагул зрабіць пераможцам у тэлеконкурсе "Песьня загарніце з сабой". Дажыліся, рокеры!

Таму найлепшы твор альбому – трэк №20, які называецца коратка і выразна: "P.S.". Гэты высокамастацкі безнадзейны храп гаворыць пра зьмест альбому выразьней за ўсё. Можна нават і альбом увесь ня слухаць, а толькі трэк №20: і ўся карціна перад вачыма!

Бо яшчэ раз паўтару: аднойчы збочыўшы на выратавальны, здавалася б, сьцёб і такую зручненькую іронію, потым больш нічога сур'ёзнага, шырокага грамадзянскага гучаньня, ня зробіш, як ні напінайся. Ні ўкладку ня будзе больш, ні ўнёску. Хоць катуй, хоць ратуй.

**Слухач у панцыры**

# Нашы Чаркасы

Некалі даўно мой бацька узяў прозьвішча жонкі, маёй маці. Калі я пачаў цікавіцца, чаму ён гэтак зрабіў, то даведаўся ўсю гісторыю сяла.

Будзеш ехаць зь Менску шашою ў бок Берасьця, дык прыкладна праз 20 км стаіць вёска Чаркасы, радзіма маіх продкаў па бацькавай лініі. Побач вёскі Васілеўшчына, Слабодка, Чэчына, Паўлякова, Вязанка, Вітаўка. Крыху далей чыгуначная станцыя Фаніпаль.

Упершыню Чаркасы згадваюцца ў летапісе ў 1688 г. Адкуль пайшла назва, дакладна невядома. Са словаў старых жыхароў, некалі пан Чаркасаў набыў гэтыя землі ў графа Чапскага. І вакол маёнтку пачалі сяліцца прыгонныя. Але ў гістарычных даведніках пра гэта нічога ня знойдзеш.

Другое паданьне спасылаецца на часы вайны 1654–1667 г., калі тут знаходзіліся казацкія войскі на чале з наказным атаманам Залатарэнкам. Людзі ў тую пару звалі ўсіх казакаў "чаркесамі". Казацкае войска стаяла тут тры гады, і менавіта з тых часоў пачалося існаваньне Чаркасаў.

Калі ўзяць "*Słownik geograficzny Królewstwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*" выданьня 1881 году, дык там чытаеш, што "Фаніпаль альбо Чэчын, фальваракак, павет Менскі, 22 вярсты на поўдзень ад Менску, дзядзінец Багдашэўскіх, глеба добрая, станцыя Берасьцейска-Маскоўскай чыгункі, званая раней колькі год Такароўкай".

Са словаў майго дзеда Якава Салохі, якому, у сваю чаргу, расказваў ягоны дзед, вёску Чаркасы заснавалі перасяленцы з Украіны. Даслала неяк маёй цётцы Дзіне Шчасьлёнак унучка з Фаніпалю ў Чаркасы віншавальную паштоўку. Адлегласьць у пяць кілямэтраў паштоўка прайшла за два... тыдні. Уся капэрта ў пячатках розных. А сярод іх — "Пошта Ўкраіны". Спачатку паслалі ў тыя Чаркасы, што пад Кіевам.

Ёсьць і яшчэ адна легенда.

## ПАДАНЬНЕ ПРА ВІТАЎ СТРЭЛ

Вось што пісаў у "Нашай Ніве" пачатку стагодзьдзя Карусь Каганец:

"Хто ня знае станцыі Хваніпаль, першай ад Менску па дарозе на Берасьце? А каля станцыі і двор таго ж найменьня стаіць. Насупраць таго двару праз балота і рэчку Хамычку стаіць драўляная царква, паграззшы ў балоце, і толькі па кладках да яе ходзяць. І дзіву чалавек даецца: што гэта собіла людзям у такім месцы царкву будаваць? Вота ж паслухайце, што старыя людзі кажуць.

У тым месцы, дзе царква цяпер стаіць, колісь быў груд, а на грудзе — двор дужа багатага баярына на імя Віт. Жыў той Віт па праўдзе, у веры, і Бог быў да яго дужа ласкаў.

Вота ж пайшла трывога вялікая, што швед у наш край наехаў і горш усякага татарына грабіць і пустошыць а над народам зьдзекуецца. Віт быў удавец і меў адну дачку, вельмі красную панну. Вітаў двор быў прыродай забясьпечаны ад ворага — сьпераду непраходным балотам, што і цяпер цягнецца абапал рэчкі Хамычкі, хоць шмат ужо сушэйшае, як за тыя часы. А за балотам і дваром цягнуліся бясконцыя адвечныя лясы. Тая старана і цяпер пушчаю завецца. Віт з дачкой, гэта цямячы і пры тым, як людзі набожныя, на Бога надзею пакладаючы,



былі спакойны ў сваім двары. Але знаць слава пра ягонае багацьце далёка ішла. Аднае гэтак ночы, калі ў двары ўсе крэпка спалі, спаў і сам баярын Віт, спала і красная яго дачка. Чуе гэта Віт праз сон зычны голас: "Віце, Віце, устань і выстралі!" Віт прахапіўся, але нідзе нічога не чуваць. Ён ізноў стаў засынаць і зноў чуе: "Віце, Віце, устань і выстралі!" Тады ён ужо мусіў устаць і, узяўшы стрэльбу, выйшаў.

І бачыць, што швэды ўжо гаспадараць у яго на двары. Ён, тое ўбачыўшы, дужа спалохаўся. Як трымаў стрэльбу, так і стрэліў на вецер. А сам пабег у пакоі дачку будзіць. Толькі пабудзіў, чуе, на двары якісь галас падняўся. А калі яны выйшлі паглядзець, бачаць, швэды ў вялікай замешцы ходзяць, хочуць з двара ўцячы, ды не папаўшы ў вароты, цiснуцца на платы. Душацца, калечацца, а каторым удалося з двара выбрацца, тыя, чуваць, ратунку просяць. Крычаць, папаўшы ў балота альбо ў рэчку. Так да раніцы ніводнага з тых швэдаў жывога не засталося. Бо асьлепшы воляю Божаю, ад Вітавага стрэлу ўсе пагінулі. Каторыя ў двары падушыліся, а каторыя патрапілі ў лес, тых зьвер люты парэзаў.

Віт на тую памяць, што Бог яго ад швэдзкай рукі захаваў, паставіў сярод двара свайго царкву мураваную і вельмі яе ўкрасіў. Жывуць так Віт са сваёй дачкою краснаю паннаю ізноў у дастатку і супакою. Адно нячыстая сіла ня дрэмле. І ўпаў пан баярын у вялікі грэх так, што зямля нават здрыганулася. І аступіўся той узгорак, на каторым двор стаяў, і рынуліся мураваныя палацы і пахавалі пад сабою грэшнага баярына.

Дачка ж яго сышла дзесь у далёкі манастыр і там веку даканала. Чэлядзь па сьвету разышлася. Двор той шторaз болей стаў у балота пагрузаць і аднае ночы зусім затануў. Толькі на тым месцы, дзе царква стаяла, людзі расьпяцце знайшлі. Потым паставілі на тым месцы царкву дзераўляную і тое расьпяцце ў ім паставілі. І праславілася тое расьпяцце цудамі рознымі. І ўсякі год на Ўзьвіжаньне зьбіраецца там шмат багамольцаў са ўсіх канцоў нашае зямлі. Завецца тое месца Вітаўка, або Вітавец. Там і цяпер можна абмацаваць у балоце кавалкі муру".

Такая вось гісторыя. Няма цяперака ні рэчкі Хамычкі, ні царквы, ні балота з адвечнымі лясамі. Толькі калі стаіш у лагчыне паміж двума ўзвышшамі, на якіх Чаркасы і Вітаўка, лёгка ўяўляеш і тое балота, і баярына са стрэльбай.

## НАСКО І ФАЛЬКО

Усе людзі, да якіх мы зьвярталіся, каб нешта даведацца з гістарычнага мінулага, спасылаліся на гэтага



чалавека, як на безумоўнага аўтарытэта. "Запытайцеся лепш у Васіля Наска, ён абавязкова павінен гэта ведаць".

Былы партызан, прапагандыст і настаўнік Васіль Наско стаў калісьці арганізатарам сьвяткаваньня 300-годзьдзя Чаркасаў і нават выдаў у 6 асобніках гісторыю калгасу на 23 старонках. Гэтая праца зусім нядаўна зазнала другое выданьне. Першае было прысьвечана 50-годзьдзю Савецкай улады, а другое — 70-годзьдзю стварэньня калгасу імя Фалька.

Прыемна мне было даведацца, што першым трактарыстам калгасу быў мой дзед Якаў Салоха

Даволі цікавая асоба і гэты знакаміты Фалько, які нарадзіўся ў Чаркасах у 1887 г. у сям'і незаможных сялян (незаможнымі тады лічыліся тыя, хто меў ад 2 да 5 га зямлі). У 1920 г. Данілу Фалька абралі за старшыню добраахвотнае пажарнае дружыны. Пасьля ён уступіў у КПБ. Да таго ж яшчэ быў селькарам "Зьвязды". Хутка пачался "дабравольнапрымусовае" стварэньне калгасаў. У ноч з 4 на 5 верасьня 1929 году нехта падпаліў хутар каля суседняе вёскі Васілеўшчыны. Тут каля палаючага хутару "кулак" Антось Будай і забіў Фалька сякерай. Будая хутка расстралялі (праз 24 гадзіны пасьля прысуду). Сям'ю ягоную выслалі ў Сыбір у шэрагу іншых "кулакоў". Са сваякоў Фалька цяперака таксама нікога не засталося. Толькі помнік на могілках у Чаркасах ды калгас і вуліца ягонага імя.

Зразумела, што калгаснае будаўніцтва ў Чаркасах скончылася перамогай, хоць толькі з другога разу.

Усё гэта можна прачытаць у працы былога партызана, сярод зьвестак пра надоі-прывагі-цэнтнэры. У прыватнай размове сп.Васіль згадвае ўсё гэта больш нэўтральна і пажыцьцёваму. Мы пагутарылі і пра рэпрэсіі, пра партызанку падчас вайны, пра самаахову і пра Армію Краёву.

## І ЎСЁ Ж ТАКІ ЎКРАІНЦЫ?

Я ўрэшце дазнаўся, чаму бацька амаль сорак гадоў таму зьмяніў прозьвішча. Аказваецца, проста начытаўся тады малады Салоха гогалеўскага "Сарачынскага кірмашу" са шкадлівай ведзьмай Салохай... Вось такі ўплыў клясычнай літаратуры.

Нарэшце, сёе-тое прыпомніла найстарэйшая на сёньняшні дзень жыхарка Чаркасаў спн.Надзея Шчасьлёнак, якой праз 2 месяцы споўніцца 90 год. Сама яна зь Вязанкі, а ў Чаркасы калісьці выйшла замуж.

Паводле ейных словаў, пачалі тут жыць менавіта Салохі, што адкупілі зямлю ў нейкага жыда, і нешта пра ўкраінцаў яна таксама чула — яшчэ ў маладосьці ад старых. Адкуль усе гэтыя прозьвішчы — Шкурдзюк, Фалько, Салоха, Шчасьлёнак, жаночыя імёны Дзіна, Роза, Міра, Зоя?.. Рэдка такія сустрэнеш у нашых мясцінах.

Зараз бабуля Надзея не бяз гумару згадвае сваё мінулае жыцьцё і са смакам п'е піва, пакуль унук дапамагае ў гаспадарцы. А мужа, між іншым, назвала "чалавікам" і нават не заўважыла.

Стаіць вёска! Побач чыесьці ўнукі будуюцца. Толькі 20 км ад мэгаполісу, а час нібыта ў іншым вымярэньні. За той дзень, што мы правялі ў Чаркасах, — ніводнага слова не пачулі пра Лукашэнку з выбарамі. Толькі тут адчуваеш, якое ўсё гэта штучнае і несапраўднае.

**Зьміцер Гарбуноў**

## калядар

**1 студзеня 1926 г. "Савецкая Беларусь", якую рэдагаваў Міхась Кудзелька (Чарот), паведаміла чытачам пра адкрыцьцё ў вялікай залі Інбелкульту бюста беларускага першадрукара Францішка Скарыны.** На ўрачыстасьці з прывітальнымі словамі да прысутных зьвярнуліся старшыня Інбелкульту Аркадзь Смоліч і старшыня гісторыка-археаграфічнай камісіі Мітрафан Доўнар-Запольскі. Урачыста адкрыць помнічак было даручана патрыярху беларускага адраджэньня Браніславу Эпімах-Шыпілу. У канцы 1925–26 г. шырока адзначалася 400-годзьдзе беларускага друку. Разглядалася пытаньне, каб бюсты ці прынамсі партрэты Скарыны займела кожная школа. Аркадзя Смоліча расстраляюць у 1938 г., Браніслаў Эпімах-Шыпіла памрэ ў Ленінградзе ў 1934 г. у страшэннай беднасьці.

**3 студзеня 1901 г. нарадзіўся Мікалай Міцкевіч, адзін з заснавальнікаў Менскай беларускай вучнёўскай грамады.** Сябры Грамады выступалі з харавымі канцэртамі і тэатральнымі пастаноўкамі падчас Усебеларускага кангрэсу 1917 г. У тым жа годзе Міцкевіч стаў акторам Першага беларускага таварыства драмы і камэдыі. У 1926 г. узначаліў БДТ-2 у Віцебску і перакладаў на беларускую мову Мальера. У 1933 г. быў абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызьме і звольнены. Прадчуваючы немінучы арышт, ён пакідае Беларусь. Толькі ў 1945 г. ён вернецца працаваць у Берасьцейскім тэатры юнага гледача.

**У 1801 г. у в. Сьцебякяй каля Панявежу нарадзіўся Канут Русецкі.** К.Русецкі скончыў факультэт мастацтва Віленскага ўнівэрсытэту, быў вучнем Яна Рустэма, працягнуў навучаньне ў Парыскай і Рымскай акадэміях мастацтваў. У 1826–31 г. працаваў у Рыме ў якасьці стыпэндыята Віленскага ўнівэрсытэту. У 1831 г. Русецкі вярнуўся ў Вільню, выкладаў мастацтва спачатку ў шляхецкім пансіёне, потым у шляхецкім інстытуце, і маляваў краявіды Ашмяншчыны, Навагрaдчыны, Белавескай пушчы.

**У 1901 г. нарадзіўся Барыс Берман, адзін з арганізатараў палітычных рэпрэсій у Беларусі.** Нарадзіўся ў Забайкальлі, ваяваў зь белагвардзейцамі на Далёкім Усходзе і басмачамі ва Ўзбэкістане. У 1920 г. Берман прыйшоў у ЧК. У сакавіку 1937 г. Барыс Берман быў накіраваны ў Беларусь на пасаду наркама ўнутраных справаў. 14 месяцаў доўжыўся ягоны крывавы баль. Каля 100 тыс. чалавек былі зьнішчаныя за гэты час у Беларусі. За адданую працу ён быў узнагароджаны ордэнам Леніна, а пасьля 22 лютага 1939 г. расстраляны.

**9 студзеня 1801 г. у Вялікай Бераставіцы нарадзіўся Юзаф Кавалеўскі, заснавальнік манголазнаўства.** Па сканчэньні Сьвіслацкай мужчынскай гімназіі ў 1817 г. ён паступіў у Віленскі ўнівэрсытэт на факультэт літаратуры і вольных мастацтваў. Падчас навучаньня і выкладаньня ў Віленскай гімназіі ён браў актыўны ўдзел у таварыствах філяматаў і філярэтаў, у 1823 г. быў арыштаваны разам з А. Міцкевічам і Тамашом Занам і высланы ў Казань. Там працягнуў адукацыю ў тамтэйшым унівэрсытэце, вывучыўшы пэрсідзкую, татарскую і арабскую мовы. У 1829 г. ён выехаў у Манголію і Кітай, адкуль прывёз стос рукапісаў па гісторыі, рэлігіі, этнаграфіі Манголіі на мангольскай, кітайскай і тыбэцкай мовах. Стаў чытаць лекцыі па гісторыі Манголіі, а неўзабаве стаў загадчыкам катэдры манголазнаўства Казанскага ўнівэрсытэту (першай у Эўропе). Пасьля выдаў "Кароткую граматыку мангольскай мовы", "Мангольскую хрэстаматыю" і "Мангола-расейска-францускі слоўнік". У 1855–1860 г. быў рэктарам Казанскага ўнівэрсытэту.

**12 студзеня 1501 г. вялікі князь літоўскі Аляксандар стаў польскім каралём**. Перад сьмерцю ў 1492 г. Казімер Ягайлавіч завяшчаў польскую карону старэйшаму сыну Яну Альбрэхту, а вялікакняскую ‑ Аляксандру. Пасьля сьмерці брата Аляксандар быў каранаваны на польскі трон. На ягоную долю выпалі цяжкія выпрабаваньні ‑ дзьве вайны з Масковіяй, страта Мцэнску, Вязьмы, Дарагабужу, Чарнігава, Гомеля, Бранску, набегі крымчакоў. Улетку 1506 г. Аляксандар, ужо сьмяротна хворы, мусіў сам узначаліць вялікняскае войска. У дарозе яму стала горай, і Аляксандра адправілі ў Вільню, а войска на чале зь Міхаілам Глінскім 5 жніўня 1506 г. разьбіла 13-тысячную татарскую арду пад Клецкам. Праз два тыдні, 20 жніўня, Аляксандра ня стала. Паны-рада і літоўская шляхта адмовіліся перадаць цела палякам, каб пахаваць яго ў Кракаве. Аляксандар Казіміравіч – адзіны польскі кароль, што пахаваны ў Вільні.

**14 студзеня 1926 г. у вёсцы Паняцічы Вялейскага павету нарадзіўся Янка Філістовіч.** У 1946 г. Філістовіч пераехаў у Францыю, у лютым 1948 г. ён паступіў на гістфак Сарбоны і актыўна заняўся арганізацыяй руху беларускае моладзі ў Францыі. 11 сакавіка 1951 г. ён атрымаў ад Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка пасьведчаньне сябры Рады БНР, а параю дзён пазьней пакінуў Сарбону і пераехаў у Бэльгію. 9 верасьня 1951 г. Янка Філістовіч пры дапамозе амэрыканскіх спэцслужбаў дэсантаваўся з парашутам каля Маладэчна і ўзначаліў партызанскую групу, якая дзейнічала ля Ільі. Увосень 1952 г. беларускія гэбісты разграмілі групу. Янку арыштавалі і асудзілі ваенным трыбуналам Беларускай Ваеннай Акругі да расстрэлу.

**Алег Гардзіенка**

# Эўтаназія ўжо існуе

Мінула XX ст., як мінае маладосьць і жыцьцё. Разбурыла стагодзьдзе межы: эканамічныя, этнічныя, маральныя, генэтычныя і іншыя Нават такая сакральная рэч, як граніца між жыцьцём і сьмерцю, сёньня ня так відавочная і мае пэўныя градацыі: магчымая сьмерць пры жыцьці – калі гіне кара мозгу , а зь ёй чалавек як асоба і разумная істота, і наступае т.зв. вегетацыйнае існаваньне, або жыцьцё пасьля сьмерці – калі гіне ўвесь мозг, а кровазварот і дыханьне падтрымліваюцца рэанімацыйнай тэхнікай – г.зв. пострганічная кома.

Дарэчы, адзін з варыянтаў эўтаназіі ў Беларусі ўжо існуе. Калі пацыент пасьля цяжкой траўмы знаходзіцца ў пострганічнай коме, дык камісія з трох дактароў, канстатаваўшы сьмерць мозгу, можа прыняць рашэньне аб адключэньні апаратаў. Папярэдне звычайна адбываецца забор органаў для трансплянтацыі, таксама пасьля адпаведнага заключэньня камісіі. Прычым для гэтага ня трэба ні згоды сваякоў, ні іншых юрыдычных умоўнасьцяў, бо ёсьць адпаведныя пастановы мінздароўя Беларусі. Вядома, гэта не клясычная эўтаназія, як у Нідэрляндах, але ж гэта таксама сьвядомае дзеяньне лекараў, якое прыводзіць да сьмерці пацыента. Праўда, ныркі, што забіраюцца ў "жывога трупа", працягнуць жыцьцё (або пакуты?) камусь іншаму, і гэта быццам бы часткова апраўдвае тую сьмерць. І ўсё ж, і ўсё ж... А раптам мэдыкі памыліліся, а мо пацыент выжыў бы? Ці раптам знайшлі б мэтад ажыўленьня мозгу? Хіба не такія аргумэнты і ў праціўнікаў сапраўднай– "галяндзкай"– эўтаназіі?

Але мэтадаў няма – ні ажыўленьня мозгу, ні збаўленьня ад мноства ракавых мэтастазаў. А эканомія відавочная – можна цягнуць такое жыцьцё, не адключаючы апаратуры тыдні й месяцы (але такое "задавальненьне" не заўсёды могуць дазволіць сабе і багатыя заходнія пацыенты), як можна ўжываць і "цудадзейныя", часта разарaльна дарагія сродкі для невылечных анкахворых. Дарэчы, празьмерна доўгае назіраньне, дагляд і чаканьне сьмерці такіх людзей прыносіць ня толькі пакуты самому хвораму, а і немалую псыхафізіялягічную шкоду родным і блізкім, што можа выклікаць хваробы і нават скараціць ім жыцьцё. Дык мо эўтаназія патрэбна ня толькі паміраючым, але і тым, хто застаецца жыць? У любым выпадку, яна не прыдумка вычварэнцаў і нэкрафілаў, як мяркуе Ю.Андрэева, а вельмі прагматычны і заканамерны ход у разьвіцьці сучаснай цывілізацыі, якая ўся заснаваная на лёгіцы навукі і веры ў чалавечы розум, што імкнецца перабудаваць самога чалавека і перайначыць усю прыроду, ня ведаючы дакладнага пляну, а тым больш выніку сваіх дзеяў. У сацыяльным пляне гэта адбылося даўно, а ў біялягічна-мэдычнай сфэры менавіта ў XX ст. Чалавек узяўся за тое, што яму не належала, што раней было падуладна толькі Богу. Ці мае чалавек права ўмешвацца ў гены і перайначваць спадчыну? Ці мае ён права выкарыстоўваць сьвінячую пячонку для ачышчэньня сваёй крыві? Ці мае ён права перасаджваць сэрца – паводле рэлігійных канонаў, умясьцілішча душы – а тым больш саджаць на ягонае месца просты маторчык? Але нарэшце і гэтага яму мала – ён замахнуўся на самую сьмерць, ці не апошняе прыстанішча Бога і яго спрадвечную манаполію.

Калі быць пасьлядоўнымі, то трэба далучыцца да сьведкаў Еговы, якія прынцыпова супраць ненатуральных умяшаньняў у арганізм, нават пераліваньня крыві і яе прэпаратаў, ня кажучы ўжо пра трасплянтацыю органаў. Але, ідучы такім шляхам, прыйдзецца адрачыся многіх дасягненьняў тэхналягічнай мэдыцыны і вярнуцца ў далёкае мінулае. Думаю, мільёны хворых, што чакаюць дапамогі, як і іхнія сваякі, будуць супраць, бо для прадаўжэньня жыцьця ці паляпшэньня яго якасьці гатовыя пераступіць праз, здавалася б, непарушныя межы рэлігіі, маралі, права. Ад частага пераадоленьня межы размываюцца і зьнікаюць. Ці ня горшы за эўтаназію, напрыклад, звычайны мэдычны спарон – забойства будучага чалавека дзеля спакою і камфорту сучаснага? А для нас гэта даўно ўжо не праблема, а будзённая рэчаіснасьць.

Думаю, што гэтак жа будзе і з эўтаназіяй, але ў нас ня вельмі хутка. Бо ўзаконенае ўмярцьвеньне невылечна хворага ёсьць прывілеем вельмі свабоднага грамадзтва з трывалымі дэмакратычнымі традыцыямі. Фактычна, гэта адна з праяваў свабоды выбару, той свабоды, імя якой было накрэсьлена на сьцягах усіх рэвалюцый і якая ўсё часьцей сягае за межы зразумелага. Але, каб выказацца супраць свабоды, трэба мець або вялікую мудрасьць, або вялікі адчай. А пакуль што мала ахвотных запісацца ў рэтраграды, выступіўшы супраць адной з галоўных ідэфікс нашай цывілізацыі і ўвогуле чалавечай існасьці.

Сёньняшні чалавек вольны ў сваім выбары, у тым ліку і выбары сьмерці, хаця ў сапраўднасьці яе можна толькі паскорыць ці адкласьці – бо ўрэшце яна непазьбежная. У сытуацыі, калі сьмерць ёсьць выйсьцем зь непераадольных пакутаў хворага і блізкіх, на лекараў ускладаецца абавязак зрабіць гэты апошні крок за самога чалавека, бо суіцыд пакуль не заахвочваецца нават у самых лібэральных краінах (ёсьць яшчэ адна мяжа!). Фактычна, лекары выконваюць сацыяльны заказ, волю і жаданьні людзей, а той др.Кеваркян, на якога навешалі ўсіх сабак праціўнікі эўтаназіі, і сапраўды прынесіў збаўленьне сваім пацыентам. Пакуты прыўносяць дысананс і разлад у грамадзтва, сутнасьцю якога ёсьць максымальная жыцьцёвая асалода і разнастайныя задавальненьні. Яны здаюцца непатрэбным марнаваньнем сілаў, часу і сродкаў. І грамадзтва па-рознаму бароніцца ад гэтага, у тым ліку і праз эўтаназію.

У рэшце рэшт, мэдычна паскораны надыход сьмерці невылечна хворых – гэта не закон аб агульнай мабілізацыі, а толькі пэўная магчымасьць, зь якой чалавек можа скарыстацца, а можа й не. А ўжо за тое, каб да мінімуму зьвесьці магчымасьць злоўжываньняў, мусяць адказваць ня толькі ўрачы, але і заканадаўцы, якія распрацоўваюць мэханізмы прыняцьця рашэньня, юрыдычнай працэдуры і грамадзкага кантролю за такім трагічным, але вымушаным актам. Па вялікім рахунку, праблема тут у значнай меры перабольшваецца журналістамі, а што да Беларусі, то з узроўнем нашага "парлямэнтарызму", грамадзкай сьвядомасьці і сацыяльнага прагрэсу актуальным гэта стане ня хутка. Мы яшчэ ня вырашылі, што рабіць з калгасамі, як (або чым) накарміць народ, куды ісьці (або сядзець на месцы) і г.д. А вы тут нешта пра эўтаназію, генную інжынэрыю ды іншыя замежныя "прымочкі". Адным словам, разуйце вочы, спадарства, і зашпіліце мазгі (на ўсе гузікі), каб туды нічога лішняга не трапляла... І наагул, з Новым годам і Калядамі!

**Васіль Аўраменка, Магілёў**

# Угода з намэнклятурнікам

Беларусь вісіць над безданьню. Экалягічная праблема закранула кожнага, насельніцтва памяншаецца, працоўныя рэсурсы не ўзнаўляюцца, амартызацыя вытворчых сродкаў дасягнула катастрафічнага стану, золатавалютных запасаў дзяржава практычна ня мае, абсалютная большасьць людзей – жабракі. Надзеі на лепшае ў грамадзтве няма. Кожны грамадзянін Беларусі мае толькі адну задачу: неяк выжыць.

Беларусь як нацыянальнае ўтварэньне страціла амаль усё. Ёсьць толькі танюсенькая нітачка Надзеі, так бы мовіць, зьвязаная з "паветраным шарам", якую трымае ў руках невялікая купка сапраўдных патрыётаў Беларусі. Выратаваньне. У чым яно, нашае Выратаваньне? Яно ў самаахвярнасьці да канца, у адзінстве ўсіх патрыётаў Беларусі, у першынстве розуму і ў клопаце пра будучыню ўсёй Беларусі, што стаяць па-над уласнымі амбіцыямі. У разумным змаганьні з ворагамі беларушчыны.

Мы мусім пагадзіцца на некаторыя кампрамісы, бо мы слабыя, ня маем шырокай падтрымкі. Сёньня якраз той выпадак, калі мы – розум і семя Нацыі – павінны найлепшым чынам паказаць сіле супраціў Розуму. Розум і самаахвярнае жаданьне перамогі.

Вялікая перамога магла б пачацца з маленькай перамогі.

На жаль, існуюць аб'ектыўныя прычыны, чаму прэзыдэнтам у 2001 годзе ня можа стаць патрыёт беларушчыны. Але ёсьць пакуль спадзяваньне, што гэтую пасаду можа заняць ня вораг, а прыхільнік Беларусі і ўсяго беларускага. Кандыдата з такімі якасьцямі можа прывесьці да ўлады дэмакратычнае беларускае грамадзтва. Во гэта й будзе нашая маленькая перамога, калі пры ўладзе апынецца ня-вораг беларусаў. Такі чалавек павінен паважаць і правы чалавека, інакш ён аўтаматычна будзе ворагам беларусаў.

Такім чынам, мы павінны скласьці партрэт будучага кандыдата ў прэзыдэнты.

Думаю, што я маю ўсе правы катэгарычна настойваць на сваёй прапанове, бо ў нацыянальна-вызвольным руху я ад пачатку яго афармленьня, я ахвяраваў яму ўсім сваім асабістым жыцьцём і матэрыяльнымі каштоўнасьцямі. Перакананы, што большасьць сяброў БНФ "Адраджэньне" стамілася ад пазьняноўскіх "маральных перамог". Яна можа быць, яна будзе. Трэба нам, патрыётам, сьцісьнуць зубы і пакуль пагадзіцца на малую перамогу, маленькі крок наперад. Я маю на ўвазе, што Лукашэнку можа перамагчы толькі паважаны "намэнклятуршчык". Наша задача знайсьці "намэнклятуршчыка"-беларуса, падпісаць зь ім дамову пра плян дзеяньняў і гарантыі. Мы найперш мусім выключна дакладна акрэсьліць праграму-мінімум, якую павінен выканаць будучы прэзыдэнт, і сьпіс тых дзеяньняў, якіх ён не павінен рабіць ні пры якіх варунках, інакш ён не пазьбегне сьмяротнай кары. Мы абавязаныя зразумець, што нашая рахманасьць тут не да месца, шкадаваньню і паблажлівасьці ёсьць таксама мяжа. Сёньня – альбо ніколі! Гэта павінна вісець над намі, як дамоклаў меч.

Выкананьне нашай праграмы-мінімуму неабходна пачаць з нас – дэмакратаў. Найперш мы абавязаныя прымусіць лідэраў апазыцыі забыцца на свае амбіцыі. Ніхто, ніхто зь вядомых сёньня дэмакратаў пакуль ня можа быць кандыдатам у прэзыдэнты. Усе яны могуць быць толькі дарадцамі ці камандай нашага кандыдата ў прэзыдэнты. Другое: нам трэба разгарнуць рух, аналягічны польскаму "Пане рэдактар". Кожны з нас павінен стаць рэдактарам мікрагазэты, ягоная задача – выраб і распаўсюджваньне газэты ад 10 асобнікаў да 1000 і болей, што дазволіць наладзіць супраціў Лукашэнкаваму замбаваньню. Палякі гэтак змаглі, ці зможам мы?

Усе дэмакраты павінны дакладна зразумець сутнасьць насельніцтва Беларусі. А яна выяўляецца ў дзьвюх аксыёмах: насельніцтва, як і жанчына, любіць вушамі і карыстаецца прынцыпам (калі мае прынцыпы): "Падлец, але мілы". Наступная: "Гэты ўжо набраўся (наеўся), то можа і нам што застанецца". Апошняя аксыёма дзейнічае амаль абсалютна і ў нас ("выбары" ў палатку), і ў Расеі (нядаўнія выбары губэрнатараў). Таксама нельга забывацца і пра падыход Лукашэнкавых агітатараў, якія хочуць выклікаць (і выклікаюць) магутны разбуральны рэзананс адмоўных эмоцыяў, злоснасьці, скіроўваючы яго затым у патрэбным кірунку.

Сёньня, як ніколі, мы стаім перад выбарам: альбо ўсе дэмакраты разам працуюць, альбо дэмакратаў у Беларусі ня будзе, бо ня будзе Беларусі.

**Вітаўт Невядомы, Менск**

**Беларускі гуманітарны ліцэй адзначае сваю ДЗЯСЯТУЮ ГАДАВІНУ!**

*Дзень адчыненых дзьвярэй* і *прэсавая канфэрэнцыя* праводзяцца 15 студзеня 2001 году. *Навукова-практычныя канфэрэнцыі* выкладчыкаў і навучэнцаў маюць адбыцца 16—17 студзеня. "Народны альбом" у пастаноўцы ліцэістаў у тэатральнай залі – 18 студзеня. *Урачыстая імпрэза* ў палацы культуры – 19 студзеня а 18-й гадзіне (уваход паводле запрашальных білетаў, заяўкі на якія прымаюцца ў ліцэі, *у пакоі сакратара* – тэл. 227-32-77). Ліцэй зацікаўлены ў *фундатарскай падтрымцы* сьвяточнае праграмы (тэлефон для прапановаў – 222-31-06). Чакаем усіх, хто спрычыніўся да станаўленьня й выжываньня ліцэю!

*Аргкамітэт*

**новы праект беларускай службы радыё «свабода»**

## ВЕРШ НА СВАБОДУ

На пачатку стагодзьдзя першая беларуская паэтка пісала "Хрэст на свабоду"; у сярэдзіне стагодзьдзя пазыўныя беларускай службы радыё "Вызваленьне" адкрываліся радкамі першага паэта нацыі "Свабоднае слова ты, роднае слова!"

На пачатку новага стагодзьдзя мы зьвяртаемся да нашых слухачоў – усіх, хто даражыць свабодай, любіць вольнае слова: стварыць новую анталёгію вершаў пра свабоду, за якую беларусы змагаліся ў мінулыя вякі, безь якой немагчыма годна ўвайсьці ў XXI стагодзьдзе.

У этэры будуць гучаць толькі новыя творы, напісаныя спэцыяльна для гэтай перадачы. Шліце вашыя вершы на адрас: Менск-5, паштовая скрынка 111, а таксама ў рэдакцыю "Нашай Нівы", пазначайце зваротны адрас і тэлефон.

Новыя вершы волі – год 2001-шы, штодня, хвалі "Свабоды". Беларускія паэты – пра свабоду – на "Свабодзе" – дзеля свабоды.

дзе варта быць

## *Латы продкаў*

У Нацыянальным музэі гісторыі й культуры ў Менску адкрылася выстава «Рыцары Вялікага Княства Літоўскага». Паказваюць 9 дасьпехаў, якія максымальна адпавядаюць узорам XV—XVI ст. або ўвогуле зьяўляюцца дзеючымі мадэлямі. Важаць яны акурат столькі, колькі сапраўдны рыштунак беларускіх вояў паўтысячы гадоў таму. Зрабілі дасьпехі майстры з канфэдэрацыі рыцарскіх клюбаў «Рыцары Вялікага княства», у якую ўваходзяць клюбы «Княжы Гуф», «Берасьцейская харугва» (Берасьце), «Жалезны воўк» (Полацак) і «Дайнава» (Ліда). Сёлета канфэдэрацыя зладзіць пасьвячэньне ў рыцары, у якім возьме ўдзел нашчадак Радзівілаў, і будзе ўдзельнічаць у інсцэнізацыі Грунвальдзкай бітвы 15 ліпеня 1410 г. у Ольштынскім ваяводзтве Польшчы, а таксама ў II фэстывалі сярэднявечнай культуры ў Наваградку.

## *У Горадні*

11 студзеня а 19-й у Гарадзенскім гарадзкім доме культуры адбудзецца прэзэнтацыя кнігі Алеся Белага "Хроніка Белай Русі".

**Алесь Кудрыцкі**

# Тэрмінатар Ніна

Я быў агаломшаны, калі пачуў, што радыёжурналістка Ніна Чайка атрымала ўзнагароду Беларускай Праваслаўнай Царквы. Большую кампрамэтацыю БПЦ складана прыдумаць. Значыць, Беларускі экзархат Маскоўскага патрыярхату перайшоў да радыкальных ідэалягічных дзеяньняў, і выданьне скандальнай кнігі "Война по законам подлости" цяпер не выглядае недарэчнасьцю.

Ніна Чайка вядзе на першай праграме Беларускага радыё брудную прапагандысцкую перадачу "Разговор по существу". Бадай, толькі Азаронак можа паспрачацца зь ёй ва ўменьні бэсьціць людзі. Напрыклад, у дачыненьні да Васіля Быкава самы ласкавы эпітэт, які ўжывае Чайка, – здраднік. Калі слухаеш гэтую "абаронцу праваслаўя", дык узьнікае адзіная думка – чалавек папросту хворы.

Чайка абвесьціла ідэалягічную вайну ўсяму, што, на яе думку, супрацьстаіць "рускаму народу" – усім рэлігіям, акрамя праваслаўя, асобна жыдам і амэрыканцам, "гэтак званай" беларускай апазыцыі і ўсёй беларускай культуры і шмат чаму іншаму. Складаецца ўражаньне, што не беларускія супрацьпаветраныя сілы стрымліваюць націск Захаду на Расею, як гэта скрозь дэкляруе Лукашэнка, а менавіта Ніна Чайка – апошні фарпост Масквы. Як з дзоту, з радыёстудыі Чайка амаль штодзень вядзе свой бой, сеючы хамства, бескультур'е, варажнечу паміж вернікамі розных канфэсіяў, людзьмі розных нацыянальнасьцяў.

Цяпер мітрапаліт Філарэт бласлаўляе Чайку на далейшае змаганьне. Толькі не разумее ён, што падобнымі крокамі пасьлядоўна аслабляе пазыцыі праваслаўя. Вынікам гэткіх ідэалягічных глупстваў стае адыход вернікаў ад праваслаўнай царквы.

У маім мікраараёне жыла адна жанчына, заўжды была вельмі набожнай. Пару гадоў таму, калі ў Полацку пачалі аднаўляць жаночы манастыр, яна аддала на ягоную адбудову ўсе свае ашчаджэньні. На той час гэта былі немалыя грошы. Летась бабулі стала кепска, і яна паслала дачку ў манастыр паклікаць да яе каго з манашак. Візыту з божага дому фундатарка так і не дачакала. Пасьля яе сьмерці ўся сям'я замест царквы пачала хадзіць у пратэстанцкі храм.

**Васіль Кроква, Полацак**

# Ня “наш” і ня “ваш”

**Сямён Букчын – публіцыст, літаратуразнаўца, дасьледчык беларуска-расейска-польскіх літаратурных сувязяў, творчасьці Пушкіна і Гогаля і іхнай сувязі зь Беларусяй. Працуе ў Польшчы.**


УЛАДЗІМЕР КАРМІЛКІН

## *Пра Расею, людзей расейскае культуры і будучыню беларуска-расейскіх адносінаў*

**— Ці не ўзьнікае ў Вас адчуваньня, што дасьледаваньні расейска-беларускіх літаратурных сувязяў былі фактычна інтэлектуальнай безадказнасьцю, бо праз іх мацаваўся комплекс непаўнавартасьці беларускай нацыі, сьцьвярджалася, што яна можа існаваць толькі ў цеснай сувязі з расейскай нацыяй?**

— Я не адчуваю ніякай адказнасьці за фармаваньне каляніяльнага сьветапогляду, бо апэраваў толькі гістарычна праўдзівымі фактамі. Быў Пушкін, быў Гогаль, якія выкарыстаў беларускі матэрыял, ствараючы сюжэт “Мёртвых душаў”. Гістарычныя, мастацкія, чалавечыя сувязі...Чаму гэта ня можа быць матэрыялам для дасьледаваньня? Іншая справа, што надбудаваць над гэтым.

**— Цераз што Вы ўсьвядомілі сябе беларускім інтэлігентам? Што сталася штуршком да такой унутранай эвалюцыі, Вашага асабістага звароту да беларускай культуры?**

— Калі я пачаў крытыкаваць Лукашэнку, адзін нацыянальны дзеяч нават сказаў: “Сямёне, цяпер я пабачыў, што ты – наш”. Я ня “наш” і ня “ваш”. Не хачу сказаць, што я такі ўжо мудры, але мне, не беларусу паводле нараджэньня, пры канцы 80-х было дадзена ўбачыць пэўныя хібы і тое, да чаго яны вядуць. І калі нацыяналісты лічылі, што чым больш мы дзяўбем Расею і ўсё расейскае, тым хутчэй балтыйскім шляхам патрапім у Эўропу, мне, чалавеку, якому балела і расейскае, і беларускае, было бачна, што гэта ня так. Я памятаю спрэчкі на вучоных радах Інстытуту літаратуры, дзе нават былыя кагэбісты, што пісалі даносы на Адамовіча, адчуўшы зьмену ветру, пачалі нападаць на мяне як на абаронцу імпэрскіх інтарэсаў Расеі. А мне проста здавалася, што трэба нейкі трэці шлях знайсьці, ураўнаважаны. Але Лукашэнка кінуўся ў другую крайнасьць, і я, згодна з традыцыяй клясычнай расейскай літаратуры, застаўся з пакрыўджанымі. Не хачу сказаць, што ў выпадку перамогі Пазьняка я зрабіўся б публіцыстам “Славянского набата”, барані Божа. Але крытыкаваў бы.

**— А чаму, па-вашаму, Пазьняк не перамог?**

— Памятаю, на пачатку 90-х ён у адным са сваіх артыкулаў напісаў, што, маўляў, уся расейская літаратура прасякнутая нянавісьцю да іншых народаў. Я даволі жорстка адказаў яму, а пасьля мне патэлефанаваў Рыгор Барадулін і сказаў: “Сямёне, ня ў час!”

Я глыбока перакананы ў тым, што такая вострая антырасейская пазыцыя зашкодзіла перш за ўсё самому Пазьняку, а зараз перашкаджае адбывацца нармальным палітычным працэсам у Беларусі. Я не хачу сказаць, што, калі б Пазьняк прамаўляў іншае на пачатку 90-х, калі б ён быў папулярны, мы ня мелі б таго, што маем сёньня. Можа, тое самае было б. Але разам з тым мяне не пакідае думка, што Лукашэнка пэўным чынам манапалізаваў сяброўства з Расеяй і займеў на гэтым не абы-якія палітычныя дывідэнды.

**— Якімі Вам бачацца беларуска-расейскія адносіны ў ідэале?**

— Час ужо, канечне, страчаны, і мы можам разважаць толькі пра тое, якімі яны маглі б быць. Можна было карыстацца дапамогай Захаду, перш за ўсё эканамічнай, і разам з тым разьлічваць на расейскую сыравіну, дый нават і па нейкую палітычную падтрымку можна было б да яе зьвяртацца. Не раздражняць. Так, як робіць Літва, Латвія, у меншай ступені Эстонія.

**— Латвія сёньня стаіць на парозе новага нутранага расколу ў грамадстве, спрычыненага пранікненьнем у краіну расейскага капіталу, які выклікае палітычныя і культурныя скандалы, расейскай злачыннасьці, расейскіх брудных грошай, карупцыі. Усё гэта моцна зьніжае давер да Латвіі з боку эўраатлянтычных структураў. Ці не азначае гэта, што тое дабро, якое нясе расейская культура для сябе, ператвараецца ў няшчасьце для суседніх народаў?**

— Але ж мы ня можам пабудаввць сьцяну і сказаць: “Усё. Адсякаем”. Ну, уявіце сабе, што мы пачынаем выкладаць расейскую літаратуру як замежную.

**— А во палякі пабудавалі гэтую сьцяну, культывавалі непрыманьне ўсяго, што зьвязана з Расеяй.**

— Я шчэ з 80-х гадоў добра знаюся ў польскай русістыцы. Насамрэч, быў такі час – пачатак 90-х, калі літаральна адбывалася выгнаньне расейскай мовы са школаў. Потым, праўда, палякі схамянуліся. Зараз польская русістыка — адна з найлепшых у сьвеце. Але гэта ня мае ніякага палітычнага дысанансу. Дый, зрэшты, трэба разьмяжоўваць палітыку й культуру. А культура расейская насамрэч разьвітая – хто будзе адмаўляць? На чым, як не на ёй, вырасла на пачатку стагодзьдзя беларуская інтэлігенцыя? Па-ангельску, па-французку чыталі адзінкі, свае фальклёрныя рамантыкі безнадзейна састарэлі. На чымсьці ж трэ было кшталціць свой розум. А мова блізкая. Увогуле, на маю думку, добра было б зрабіць у Беларусі расейскі ўнівэрсытэт, каб русістыка была на эўрапейскім узроўні, і ўспрымаць яго як частку беларускай культуры, а не як нейкія выспы расейшчыны.

**— Як вы думаеце, ці можа стацца так, што ў XXI ст. людзі расейскай культуры у Беларусі пагодзяцца, каб беларуская мова зрабілася сымбалічнай мовай улады, а беларуская культура – сымбалічнай культурай улады? Ці яны будуць увесь час дабівацца, каб расейская мова, расейская культура былі носьбітамі нейкага сымбалічнага сэнсу?**

— З асабістага досьведу скажу, што ў маёй душы адначасова жывуць і чалавек расейскай культуры, і беларус. Таму мне, з аднаго боку, не падабаюцца няслушныя нападкі на расейскую літаратуру як на “імпэрскую”, “азіяцкую”, але, зь іншага боку, калі я пабачыў, што тут прыйшлі да ўлады людзі, якія бэсьцяць усё беларускае, мая беларуская годнасьць пачала пераажываць. Мне здаецца, што такой пазыцыі павінны прытрымлівацца ўсе так званыя “расейскамоўныя” – людзі расейскай культурнай арыентацыі. Мы павінны памятаць, што жывем у Беларусі, што ёсьць народ, ягоная культура, гісторыя. Хаця і маргіналы, кшталту “Славянскага набату”, будуць заўсёды, але мне здаецца, што яны складаюць мізэрную частку, тады як астатнія знаходзяцца на нармальным культурным узроўні й разумеюць (ці падсьвядома адчуваюць), што беларускія прыярытэты тут маюць права быць, што гэта трэба прыняць як норму, і ад гэтага карона ні з кога ня зваліцца. Толькі, каб пераканаць кагосьці ў гэтым, трэба апэляваць да нармальных чалавечых пачуцьцяў. Не станавіцца ў ганарлівую пазыцыю, маўляў, я – носьбіт нацыянальнай ідэі, трэба проста рабіць сваю справу – выдаваць газэту, часопіс...

Расейская культура – хочам мы гэтага ці не – ёсьць фактам агульнабеларускай культуры: гэта тэлебачаньне, Internet і г.д.

Значыць, трэба шукаць нармалёвых дарог да нейкага калі не ўзаемапранікненьня, дык суіснаваньня. Нават у малапрыемных побытавых сытуацыях трэба дэманстраваць сваю вышэйшасьць. Не дакараць, ня крыўдзіцца, не станавіцца ў позу. Сваю годнасьць трэба захаваць. Няма іншага выйсьця беларускаму інтэлігенту.

**— З чым, на Вашую думку, беларусы ўваходзяць у XXI ст.? Якія ёсьць спадзяваньні і якія праблемы засталіся ў спадчыну ад мінулага?**

— Нарадзілася пакаленьне маладых беларускіх інтэлігентаў – зь веданьнем замежных моваў, зь іншымі поглядамі, хаця ў іх я таксама сустракаў варожасьць да ўсяго расейскага, крытычную засяроджанасьць. Мне здаецца, ня трэба кідацца ў крайнасьці, зьвязваючы ўсё злое, адмоўнае, з расейскім альбо абагаўляючы расейскае. Трэба знайсьці нармальны беларускі тон, а мы вось пакуль ніяк ня можам зрабіць гэта. Напрыклад, “Яблоко” Вольгі Абрамавай спрабуе капіяваць расейскі лібэралізм. Для мяне гэта проста сьмешна. Я не хачу сказаць, што гэтыя лібэралы грэбуюць усім беларускім, хаця ў пэўным сэнсе і грэбуюць.

Сутыкнемся мы ў наступным стагодзьдзі й з праблемай нармальнага спалучэньня расейскай культуры зь беларускай. Мы ж ня будзем сьцьвярджаць, што Чэхаў і, напрыклад, Фолкнэр займаюць у сьвядомасьці культурнага беларуса аднолькавае месца. Першы нашмат бліжэйшы, даступнейшы – праз мову. Гэта будзе доўгая па часе й цяжкая для вырашэньня праблема, і будуць спэкулянты кшталту Лукашэнкі. Парадаксальна: абсалютна антыкультурная асоба бароніць расейскую культуру!

**— А беларуска-габрэйскі дыялёг? Ці, па-Вашаму, ягоныя пэрспэктывы зьвязаныя з пэрспэктывамі беларуска-расейскага дыялёгу?**

— Ён выглядае як натуральны пачатак вырашэньня складанай праблемы. Складанай, бо няма каму весьці гэты самы дыялёг: габрэіла-разьяжджаліся, а сярод беларусаў няшмат знойдзецца спэцыялістаў належнага ўзроўню. Між іншым, польска-габрэйскі дыялёг вядуць самі палякі, яны прамаўляюць і за палякаў, і за габрэяў. А тут проста няма каму яго весьці. У Польшчы, нягледзячы на пэрыядычныя антысэміцкія выступы, выходзіць штогод сьвет кніжак па габрэйскай гісторыі, культуры, матэрыялы пра сынагогі, пра паўстаньне ў гета – акіян літаратуры, я купляю і купляю, ужо няма дзе ставіць у маёй варшаўскай кватэры, прычым палякі не саромеюцца, яны публікуюць абвінавачваньні супроць саміх сябе – у польскіх выдавецтвах! У Беларусі ж, па вялікім рахунку, дыялёг покуль што не пачынаўся. Тое, што іншым разам зьяўляюцца нейкія абразкі з габрэйскага жыцьця, творы габрэйскіх мастакоў у “Arche” ці “Нашай Ніве”, успрымаецца як вяртаньне да квяцістай, эксцэнтрычнай тэмы — што во была гэтая Атлянтыда. Яна зьнікла, але не было яшчэ ніводнага артыкулу, у якім былі б балюча, востра, можа часам несправядліва пастаўленыя карэнныя пытаньні і праблемы беларуска-габрэйскага суіснаваньня. Каб прыйшоў нейкі габрэйскі публіцыст, пісьменьнік, гісторык, і прынёс вам сапраўды палемічны артыкул, а беларускі аўтар яму б адказаў.

**— Мы кажам, што Вы перажылі эвалюцыю поглядаў, бо ў сваіх новых працах Вы ўпісваеце Беларусь не ў постсавецкі, як раней, а ў сярэднеэўрапейскі кантэкст, суадносячы яе з Польшчай, Сэрбіяй... Насамрэч падзеі, што адбываюцца ў гэтых краінах, маюць надзвычайнае значэньне для нас. Асабліва гэта тычыцца апошняй, з прычыны блізкасьці – да нядаўняга часу – ідэалёгій. Што, на Вашую думку, адыграла галоўную ролю ў перамозе сэрбскай апазыцыі – дапамога звонку, шырокая грамадзкая падтрымка, міжпартыйная салідарнасьць або штосьці іншае?**

— Найбольшым дасягненьнем сэрбаў зьяўляюцца не шматтысячныя маніфэстацыі – апазыцыйныя лідэры, відаць, самі не спадзяваліся, што кампанія грамадзянскага непадпарадкаваньня набудзе такія маштабы, хаця яна й была сплянаваная, хаця яе й падтрымалі дырэктары буйных прадпрыемстваў і нават хтосьці са службы бясьпекі... Больш істотным падаецца мне тое, што сэрбская апазыцыя здолела ахвяраваць асабістымі амбіцыямі дзеля супольнай справы. Бо яшчэ ў сярэдзіне жніўня, падчас агульнае нарады, на якую сабраліся прадстаўнікі 18 партыяў, большасьці, асабліва сацыял-дэмакратам, быў вельмі несымпатычны Каштуніца. Але яны разумелі, што на выбарах трэба вылучыць адну кандыдатуру, адну – каб грамадзтва ўбачыла рэальную альтэрнатыву дзейнай уладзе. Цуд дый годзе – адкінулі людзі ўсе супярэчнасьці, усе сымпатыі-антыпатыі – і крайні нацыяналіст Каштуніца, фактычна, другі Мілошавіч, вымушаны быў ператварыцца ў анты-Мілошавіча, зрабіцца зброяй у руках дэмакратычнай апазыцыі.

**Запісаў Барыс Тумар**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

І.Пракаповіч. **Адкуль паходзяць назвы рэк і азёр Пастаўскага раёну**. – Наваполацак, 2000. – 45 с. + карта. – Наклад 299 ас.

*Кніга складаецца з апісальнага разьдзелу «Назвы рэк і азёр Пастаўскага раёну» й «Гідранімічнага слоўніка», дзе тлумачыцца паходжаньне назваў.*

К.Тарасаў. **Апошняе каханьне князя Міндоўга**: Аповесьць. – Менск: Лекцыя, 2000. – 160 с. – Наклад 400 ас. ISBN 985-6305-25-X

*Папулярызатар беларускае гісторыі Кастусь Тарасаў сваю чарговую кнігу прысьвяціў падзеям XIII ст. – часу паўстаньня Вялікага Княства Літоўскага.*

**Arche–Скарына**: Аналітыка. Эсэістыка. Крытыка. Рэцэнзіі. № 8 (13), 2000 г. – Менск, 2000. – 72 с.: іл. – Наклад 1200 ас.

А.Кулагін. **Каталіцкія храмы на Беларусі**: Энцыкляпэдычны даведнік/ Мастак І.Бокі. – Менск: Беларуская энцыкляпэдыя, 2000. – 216 с.: іл. – Наклад 3000 ас. ISBN 985-11-0187-7

*Аўтар гэтага даведніка 20 гадоў зьбіраў матар'ялы пра існыя і ўжо зьніклыя каталіцкія бажніцы краю. Да артыкулаў прыточана 500 чорна-белых і каляровых фатаздымкаў. Даведнік складаецца з разьдзелаў: «Касьцёлы. Кляштары. Капліцы», «Страчаная спадчына», «Рэестар», «Бібліяграфія», «Тэрміналягічны слоўнік». Не пра ўсе помнікі дадзена падрабязная інфармацыя. Пра некаторыя зьніклыя зьмешчаны толькі радок з назовам бажніцы. Каштуе пад 2 т.р. Неўзабаве мае выйсьці даведнік аб праваслаўных бажніцах Беларусі.*

**Куфэрак Віленшчыны**: гістарычна-краязнаўчы й літаратурна-мастацкі часапіс Віленскага краю. № 2, 2000. – Маладэчна, 2000. – 186 с.: іл. – Наклад 299 ас.

*Нумар прысьвечаны а.Уладзіславу Чарняўскаму. Апрача таго ў нумары: нарыс Э.Корзуна «Жыды мястэчка Гальшаны», П.Савіцкі піша пра падзеі першае ўсясьветнае вайны на Смургоншчыне, В.Рагойша публікуе краязнаўчыя нататкі «Мястэчка Ракаў». Рэдагуе часапіс Міхась Казлоўскі.*

**Студэнцкая думка**. № 7, кастрычнік 2000 г. – 40 с.: іл. – Наклад 1300 ас.

*Павялічыўся наклад – на 300 ас.*

Ф.Шылер. **Улада песьнясьпеву**/ Пер. А.Лойкі, досьлед. ч. – у суаўтарстве з Г.Аўэрсвальдам. – Менск: Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, Енскі ўнівэрсытэт, 1997. – 168 с. – Наклад 500 ас.

*Першая спроба адначаснага перакладу й дасьледзін паэзіі Шылера па-беларуску. Набыць можна ў ТБМ (вул. Румянцава, 13).*

**Віктар Мухін**

## Пясьняр і папрадуха

**Аднойчы я нечакана заўважыў, што найтанчэйшая частка паветра зьбіраецца паміж пальцамі рук. Менавіта адтуль у наш сьвет прыходзяць усялякія прывіды. Вось дзьве казкі, першая — амаль народная.**

Вядомы пясьняр прыйшоў да папрадухі й папрасіў зрабіць яму новую думку — бо штосьці чарговая ода пра калгасную вёску ня пішацца. Кабеціна спрала такія тонкія ніткі, якія толькі змагла, але пісьменьнік сказаў, што ягоныя думкі павінны быць яшчэ танчэйшыя. “Калі гэтыя затоўстыя, дык вось табе іншыя!” — адказала папрадуха і паказала яму на пустое месца, а калі той заенчыў, што нічога ня бачыць, пасьміхнулася: “Дзіва што! Я і сама іх ня бачу”. Пісьменьнік узрадаваўся і замовіў сабе яшчэ дзьве новыя думкі, а за першую неўзабаве атрымаў Дзяржаўную прэмію.

## Каралеўскія вусы

**Другую гісторыю мне даслаў Ганс Хрысьтыян Андэрграўндсэн.**

У адной краіне жыў кароль, які больш за ўсё на сьвеце любіў свае вусы. Ён не клапаціўся пра войска, не цікавіўся мастацтвам, абыякава ставіўся да спорту, а калі й зьяўляўся час ад часу на вайсковых парадах, у тэатры альбо на стадыёне, дык толькі каб паказаць народу свае вусы.

У сталіцу ягонай дзяржавы штодня прыходзілі цягнікі. Адзін зь іх прывёз на радзіму двух загрымаваных палітэмігрантаў з дыплёмамі ляўрэатаў фэстывалю цырульнага мастацтва славянскіх і праваслаўных народаў. Падчас аўдыенцыі яны паабяцалі каралю зрабіць такія вусы, якіх нідзе ў сьвеце няма. Найістотнай іх адметнасьцю былі не прыгожыя завітушкі і не мадняцкі колер, а ўласьцівасьць заставацца нябачнымі для ўсіх, хто кепска выконвае службовыя абавязкі альбо цішком спачувае недабітай апазыцыі.

“Вось дык вусы! — узрадаваўся кароль. — Начаплю такія й адразу ўбачу, якую прыдворную дупу варта турнуць з наседжанага месца”. I даў цырульнікам вялікі аванс, каб тыя неадкладна пачыналі працу.

Прайдзісьветы не лічылі патрэбным нават рабіць выгляд, што працуюць: на іхных сталах апроч піва ды порначасопісаў нічога не было. Але ўся краіна толькі тым і займалася, што пераказвала чуткі пра чароўныя вусы, якія падрастаюць у каралеўскім палацы. Нарэшце, і сам кароль вырашыў памераць іх, але не пасьпеў. Нечакана прыехала санэпідэмстанцыя і ўсіх прусакоў патруціла.

**Юрась Барысевіч**



ЛІЯ КІЙКО

# Нашы сучасьнікі

Адам Глёбус

### 1973 ГОД. ВЫХАДЦАЎ І ВОПРАТКА

“Калі ня можаш намаляваць чалавека, малюй ягоную вопратку,” — вучыць выкладчык Юры Выхадцаў. О, гэтая вопратка! Колькі яна можа распавесьці пра свайго гаспадара! Тут табе і чаравікі Вінцэнта Ван Гога, і капялюш Якуба Коласа, і школьная фуражка, пра якую я марыў. Хацелася мець шэрую школьную форму з пасам і спражкаю, з фуражкай і кукардаю... I на табе. Маці прыносіць нейкую цёмна-валошкавую форму. Пінжак без каўнера, порткі бяз паса, а фуражкі зусім няма... Час зламаўся. Форма зьмянілася. Зьмяніўся зьмест. “Ня можаш напісаць зьмест, пішы форму”, — чую далёкі голас, подобны да голасу Выхадцава.

### 1992 ГОД. МІНКІН І ЗЬВЯРУГА

Паэт Алег Мінкін бегае на доўгія дыстанцыі, і, як кожны бягун, ня любіць сабак. Кідаюцца яны на бегуноў. Аднойчы каля дому творчасьці “Іслач” ён забівае каменем злоснага брахуна. Пісьменьнікі абураюцца жорсткім учынкам. Я не наракаю на паэта Мінкіна, бо сам не люблю, калі пад ногі кідаецца дурны сабака. I калі забіваць зьвяругу, дык так, як Алег, — трапным ударам каменя, каб без пакутаў.

### 1999 ГОД. РАКІЦКІ Й СЬЦЯПАН

На выставе мастака Ўладзімера Ракіцкага пісьменьнік Уладзімер Сьцяпан кажа, што той малюе пупкі замест вачэй. Заалягічна-сюррэалістычны вобраз — чалавек з пупкамі ў вачніцах. Такое можа ўбачыць толькі чалавек з тэлебачаньня, зь беларускага TV, дзе працуюць людзі зь нямытымі пупкамі замест вачэй і зь мускульным мясам замест мазгоў. Што да партрэтаў, якія Ракіцкі перамалёўвае з фатакартак, дык вочы на іх спалоханыя фотаапаратнымі птушкамі.

### 2000 ГОД. АЛЕНА І КАРЦІНЫ

Мастацтва XX стагодзьдзя толькі тым і займалася, што з большым ці меншым посьпехам фатаграфавала творы старых майстроў і атрымлівала замест іх кірмашныя карцінкі, выкананыя ў самай рознай паліграфічнай якасьці. Фотамастачка Алена Адамчык, наадварот, фатаздымкі ператварае ў карціны.

### 2000 ГОД. ДУБАВЕЦ І ПОДЗЬВІГ

Ёсьць людзі, здатныя найпросты занятакператварыць у подзьвіг. Напрыклад, рэдактар Сяргей Дубавец, які нават вычытваньне газэтнае карэктуры ўспрымае як самаахвярны ўчынак дзеля росквіту Бацькаўшчыны.

### 2000 ГОД. ДЗЯРЖЫНСКІ Й БЖЭЗІНСКІ

Калі б я верыў у рэінкарнацыю, я б не сумняваўся, што Зьбігнеў Бжэзінскі — чарговае ўвасабленьне Фэлікса Дзяржынскага. Першы жалезнай рукой мацаваў савецкую імпэрыю, другі з гэткім самым імпэтам вядзе ЗША да сусьветнага панаваньня. Абодва — палякі. I ніводзін зь іх сваёй польскасьці не выракаўся, наадварот — Польшча для Фэлікса была, а для Зьбігнева ёсьць асноўным козырам у геапалітычнай гульні. I яшчэ адна дэталь: і Дзяржынскі, і Бжэзінскі маюць аблічча сярэднявечных інквізытараў.

### 2000 ГОД. ПАЎЛІНА Й СЯБРЫ

“Чаму мяне ніхто ня любіць і ня хоча са мной сябраваць?” — пытаецца ў мяне праваабаронца Паўліна Качаткова. У адказ хачу працытаваць з кнігі “Дхамапада” адну сэнтэнцыю, але передумваю. А цяпер вось працытую: “Калі вандроўнік не сустрэне падобнага да сябе або лепшага, няхай застаецца самотны”.

### 2000 ГОД. ХОБАТАЎ І ПРАСТАЛЫТКА

Карціншчык Лёнік Хобатаў хрысьціцца перад пачаткам работы. I хай бы сабе хрысьціўся, калі б не здымала яго тэлекамэра й не ляжала перад ім паўнацелая мадэль-прасталытка. Мастакі спрадвеку малявалі жаночыя дупы, але каб хто хрысьціўся перад гэтым, я Хобатаў, я ня бачыў.

### 2000 ГОД. ДРАНЬКО-МАЙСЮК І КНІЖКА-ЛІЛІПУТАЧКА

Рыфмавік Дранько-Майсюк выпусьціў свае радкі ў кніжцы-ліліпутачцы. Ёсьць такія выданьні: пінцэтам бярэш, пад мікраскопам чытаеш. Яны ёсьць праявай аматарскага мастацтва, кшталту караблёў у бутэльках, Эйфэлевых вежаў, складзеных з запалак, саламяных конікаў. Такая гора-творчасьць усё сувэрэннае ператварае ў сувэнірнае.

## прыватныя абвесткі

**беларускамоўныя клясы**

**Бацькі, што жывуць у Сухараве** і жадаюць, каб іхнае дзіця пайшло ў 2001 г. у беларускамоўную клясу, зьвяртайцеся на т.: 215-84-09, Алесь

**віташьні**

**Усіх нашаніўцаў** віншуем са сьвятамі! З Новым годам, з Раством! Нашаніўцы з Бабруйску

**Каханая мая Лесенька!** Праз любую газэту хачу яшчэ раз павіншаваць Цябе з Новым годам! Будзем разам усё стагодзьдзе. Твой Вагарна!

**ідэі**

**Паважаныя ахвяры** дэструктыўных культаў і таталітарных сэктаў, запрашаем вас прайсьці курс духовай рэабілітацыі, наведаўшы старонку “Сьвятая дуброва”: www.dubrova.cjb.net

**Наталька Базылевіч,** маліцца і верыць у Бога ня трэба

**Наталька Базылевіч**, дрэнна, калі Вы моліцеся, яно нічога не дае...

**Прарок Ерамія**, я Вас зусім не разумею... у нумары №52 газэты

**Шаноўны Сяргею Пятровічу**, я Вас зусім не разумею...

**Гэй, малойцы** з Варвашэні, 8! Пакажам у новым годзе рэжыму сваю Волю! Сябры з Бабруйску

**каляска**

**Вазьму крутую каляску** для хлопца-немаўляці і пральную машыну-аўтамат. Бард Мельнікаў. Т.: (0232) 54-30-40

**кантакты**

**Першакурсьніца з “Пагоняй”**, зьвяжыцеся з Маладым Фронтам. Сьвядомыя студэнты ФБФ і Г.

**Незалежнае маладзёвае выданьне** ўсходняй Барысаўшчыны “Павятовы летапіс” шукае кантактаў зь незалежнымі выданьнямі іншых рэгіёнаў. 222125, Менская вобл., Барысаўскі павет, м.Навасады, вул. Лясная-2, д.16

**Шукаем кантакт** з былой рэдакцыяй газэты “Нацыяналіст”. 210015, г.Віцебск, а/с 60

**Цікавы мужчына** шукае актыўных сяброў сярод вайскоўцаў ці міліцыянтаў. 220141, Менск, а/с 78

**кнігі, пэрыёдыка**

**Прадаю кнігі па фантастыцы** (замежная й савецкая). Т.: 253-61-17

**Калі жадаеш атрымаць** №2 незалежнага маладзёвага выданьня Ўсходняй Барысаўшчыны “Павятовы летапіс”, дасылай замову на адрас: 222125, Менская вобл., Барысаўскі павет, м. Навасады, вул. Лясная-2, д.16

**Новы асартымэнт** кніжак, календароў, аўдыё-відэа, CD, шэўронаў з нацыянальнай сымболікай зьявіўся на выставе ТБМ (Румянцава, 13). Прыходзьце з 11.30 да 19.00, апроч выходных. Т.: 213-43-52

**музыка**

**Альбомы** «Я нарадзіўся тут», «Сьвяты Вечар», «Народны альбом», «Вольныя танцы» і іншыя можна набыць, зьвярнуўшыся на тэл.: (017) 249-08-88. 220085, Менск, а/с 5. Віталь

**нямецкая мова**

**Нямецкая мова.** Рэпэтытарскія паслугі для дзяцей, школьнікаў ды ліцэістаў. Вольга. Т.: 283-54-25 (з 8.00 да 12.00)

**праца**

**Дапамагу** пачаць уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**фаервэрк**

**Прадам набор** для каляднага (навагодняга) фаервэрку. Т.: 258-36-80

**эспэранта**

**Мова эспэранта** – вельмі лёгка, ня верыш – праверыш! Ад Вас капэрта са зв/а + купон б/а. А/с 9, 246008, Гомель-8

**НАША НІВА** КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

____________________________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон _____________________

**Прадаю:** 3б. тв. Ул.Караткевіча ў 8 т., Слоўнік В.Ластоўскага, “Словарь украинскаго языка” под ред. Б.Д.Гринченко. - Кіевъ, 1907 г., Eliza Orzeszkowa “Cham” .– Warszawa, 1889 г. і інш. **Т.: 258-43-54**

**ЛІЦЬВІНЫ!**
Літасьць – літара, літургія – малітва. Мая Літва! Кожную сераду а 17-й гадзіне ў Менскім Петрапаўлаўскім саборы МАЛІТВА за нашу мову і наш род. Ганна.

## паштовая скрынка

**Андрэю з Карэлічаў.** Перашлеце гэта ў газэту “Навінкі” або напішэце нам пра гэта фэльетон.

**БЛ-ку з Кобрыня.** Усе супрацоўнікі “НН” — беларускамоўныя.

**Вадзіму Б. зь Сьветлагорску.** Што б ні напісалася пра навагоднюю ноч на БТ, усё адно выйдзе нецікава. Лепей не глядзець, і годзе. Мы жывем зь імі ў розных сусьветах.

**Васілю Ч. з Навасёлкаў.** Такія выданьні, як “Arche” ці “Навінкі”, кожнае па-свойму атакуюць і “савецка-каляніяльны”, і “савецка-патрыятычны” каноны беларускага слова з уласьцівымі для першага і другога эстэтыкай і сыстэмай табу (у значнай ступені супольнымі), міталёгіяй (дыямэтральна супрацьлеглай). I характэрныя для першага хваласьпевы Расеі і славянства, і характэрныя для другога плачы пра “родную мову” аказваюцца аднолькава непрымальнымі для маладое культуры. Гэта карысна для беларушчыны, якой пагражае культурны аўтызм пад ціскам расейскага нацыяналізму.

**Уладзімеру М. з Гомеля.** Плоту вакол хаты не было.

Віншуем сужэнства Лялькowых з нараджэньнем дачкі! Дай, Божа, ёй краснае долі! **Сябры**



**НАША НІВА**
незалежная газэта

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Дзядзенка |
| кіраўнік праекту | Сяргей Дубавец |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| стыльрэдактар | Мікола Раманоўскі |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| адказны сакратар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: niva@user.unibel.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 3730.
Нумар падпісаны ў друк 7.1.2001.
Замова № 52.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а